# ПА ПРАДПРЫЕМСТВАХ СТАЛІЦЫ

З блакнота мастака С. Раманава.



Лепшы мадэльшчык завода імя Варашылава Л. Малаш.



Старшы машыніст комсамольскага паравоза № 1095 дэпо Мінскага чыгуначнага вузла З. Саладкоў.

Наборшчыца-комсамолка, выдатніца вучобы Рамесніцкага вучылішча № 5 А. Якавіцкая.





Выдатнікі вучобы Мінскага медыцынскага інстытута комсамольцы Э. Наталевіч і А. Манулік здаюць дзяржаўныя экзамены.

Фота Ул. Дагаева і Ул. Кітаса.


# МАЛАДОСЦЬ

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

№ 3. Чэрвень, 1953 год.

Яўген ВАСІЛЁНАК

# КОМУНІСТЫ—СТАРЭЙШЫЯ ТАВАРЫШЫ

Нарыс

Фота М. Мінковіча.

1

Яшчэ ўчора было яснае, ціхае надвор'е, у чыстым блакіце на ўсю сваю чэрвеньскую моц палала сонца, а сёння з самай раніцы ўсё змянілася: пацямнела неба, паплылі па ім чорныя, нібы з вугальнага пылу, хмары, пачаў імжыць дождж. Пасля ўзняўся вецер, і з кожнай хвілінай ён мацнеў і мацнеў.

Па сталёвых рэйках з Баранавіч у кірунку Мінска рухаўся доўгі таварны эшалон. З трубы паравоза вылятала клубы чорнага дыму і, падхопленыя ветрам, несліся над вагонамі і неўзабаве знікалі.

Грукат колаў, шум ветру, шапаценне бяроз, што сцяной стаялі абапал чыгункі, — усе гэтыя гукі зліваліся ў адзін цяжкі гул, які, здавалася, ідзе аж да самага небасхілу. Памочнік машыніста Аляксандр Барысевіч паімкнуўся высунуць галаву з акна паравознай будкі, але дождж так сакануў па твары, што ён у момант адхіліўся назад.

— А каб цябе ліха!.. — вылаяўся Барысевіч і зірнуў на Гляцэвіча.

Машыніст нічога не сказаў памочніку. Не адыходзячы ад глядзельнага шкла, ён звыклым рухам левай рукі пасунуў крыху рэгулятар, павялічыўшы адсечку на адзін зуб, пасля пераставіў рукаятку паветранага рэверса. Хутчэй запрацавала машына, часцей запыхкала пара ў трубе. Яе пыхканне нагадвала цяжкае дыханне чалавека, які праз сілу ідзе ўгару.

— Ну і рэйс выдаўся нам сёння, — не сунімаўся Барысевіч, выціраючы хусцінкай кроплі дажджу з твару. — Смяротная кара, а не паездка, каб на яе ліха!..

Качагар Васіль Сімуткін палез на тэндар. Нізка насунуўшы на вочы шапку, каб яе не сарваў вецер, Васіль трохі пакорпаўся з вугалем, пералапачваючы яго, але дождж прымусіў падацца назад, у паравозную будку.

Хуткасць поезда зноў пачала зніжацца. Сустрэчны вецер перашкаджаў руху, ствараў дадатковыя цяжкасці для паравознай брыгады. А ўперадзе ляжаў яшчэ больш складаны ўчастак шляху. Асабліва цяжка будзе пасля Негарэлага: там пачынаецца зацяглы пад'ём, пераадолець які нават і пры добрым надвор'і не так лёгка. Машыніст Лявон Гляцэвіч задумаўся. Эх, каб было ў яго больш вопыту!.. А то машыніст ён малады, водзіць паязды, як кажуць, без году тыдзень... І параіцца на паравозе няма з кім. Памочнік Аляксандр Барысевіч і качагар Васіль Сімуткін таксама хлопцы ўсё маладыя, прышлі на чыгунку нядаўна. Праўда, уся брыгада — камсамольцы, кожны з іх прагна цягнецца да ведаў, да таго, каб не было ніякіх таямніц у абыходжанні з машынай, у ваджэнні не толькі звычайных, але і цяжкавагавых паяздоў, — ды толькі пакуль што і ведаў яшчэ нестае і таямніц багата. От хоць-бы і зараз: што трэба рабіць, якія захады ўжыць, каб поезд не выбіўся з графіка, каб, не зважаючы на непагоду, па раскладу прыбыў у Мінск? Бо груз-жа ў вагонах адказны, яго трэба тэрмінова прывезці ў пункт прызначэння. Ды і наогул спазняцца, а тым больш затрымлівацца ў дарозе нельга: ззаду ідуць другія паязды, рух іх вызначаны дакладным графікам, і калі што здарыцца з папярэднім эшалонам, то гэта і астатніх затрымае.

А дождж не спыняецца, а вецер усё мацнее...

Удалечыні замільгацеў зялёны агеньчык светафора. Хутка будзе станцыя Гарадзей. Лявон Гляцэвіч зірнуў на гадзіннік. Згодна графіка поезд павінен ужо быць на станцыі. «Познімся!»

— Падкінь вугалю, Саша! — загадаў Гляцэвіч памочніку.

— Ёсць падкінуць вугалю! — паспешліва адказаў Барысевіч.

Цяжка, быццам выбіваючыся з сіл, дыхаў паравоз. Біўся ў глядзельнае шкло вецер. З трубы вырываліся чорныя клубы дыму.

«Эх, каб больш вопыту!.. — з тугой думаў Гляцэвіч. — Каб столькі, колькі ў Саладкова! Той ведаў-бы, што зараз трэба рабіць, у момант ліквідаваў-бы спазненне...»

Комуніст Змітрок Саладкоў, пра якога думаў Гляцэвіч, працуе на гэтым-жа паравозе нумар 1095 старшым машыністам. Паравоз па чарзе абслугоўваюць тры брыгады: Саладкова, Юранка і яго — Гляцэвіча. Брыгады Саладкова і Юранка зараз адпачываюць. У Мінску Гляцэвіча зменіць Юранок са сваімі хлопцамі, а потым на паравоз прыдзе Саладкоў з памочнікам Ярашэвічам і качагарам Нургаліевым. А пакуль што поезд вядзе ён, Лявон Гляцэвіч, і на ім ляжыць адказнасць і за машыну, і за паспяховае заканчэнне рэйса, і за дакладнае выкананне графіка руху.

«Каб быў тут зараз Змітрок — ён-бы дапамог мне, — зноў думае Гляцэвіч. — Даў-бы параду, што і як рабіць. У яго-ж за плячыма пяць год работы машыністам. А ў мяне... я-ж толькі яшчэ пачынаю...»

Няма зараз на паравозе Змітрака Саладкова — добрага, надзейнага старэйшага таварыша. Далёка ён адсюль. Адпачывае пасля нядаўняй паездкі. Напэўна, спіць у сваёй цёплай, утульнай кватэры — паездка-ж таксама была нялёгкая, трэба набрацца сіл на наступную.

Няма побач таго, з кім можна было-б параіцца, у каго можна было-б высветліць незразумелае. І таму трэба ўсё вырашаць самому.

Ужо відаць станцыйныя пабудовы Гарадзея. Поезд пачаў замаруджваць ход. Нібы ўзрадаваны блізкім прыпынкам, весела і працягла загудзеў паравоз.

2

А ў гэты час па станцыйных пуцях Мінскага вузла ішоў невысокі хударлявы чалавек. На ім была форменная шапка і такі-ж форменны цёмнасіні плашч. Плашч блішчэў ад дажджу, бацінкі набрынялі вадою.

Вось чалавек прыпыніўся, падняў крысо плашча, выцягнуў кішанёвы гадзіннік, паглядзеў на яго. Схамянуўшыся, хутка схаваў гадзіннік і шпарчэй закрочыў па шпалах.

На пуцях не было ні душы. Стрэлачнікі і тыя пахаваліся ў свае будкі, — каму-ж ахвота тырчэць на дварэ ў такую непагадзь!..

Прагрукацеў міма манеўровы паравоз, цягнучы за сабою тры цыстэрны. Машыніст манеўровага паравоза выгукнуў:

— Добры дзень, таварыш Саладкоў!

Адказаўшы на прывітанне, чалавек пайшоў далей.

Так, гэта быў старшы машыніст грузавога паравоза нумар 1095 комуніст Змітрок Саладкоў.

Відаць было, што Саладкоў ідзе вунь да таго цаглянага будынка, што стаіць крыху на



У дыспетчарскую прышоў старшы машыніст комсамольскага паравоза З. Саладкоў.
— Як там наш паравоз? Дзе зараз знаходзіцца? — спытаўся ён у дыспетчара В. Кунаева.

Пасля чарговага рэйса машыніст-інструктар Н. Багацель гутарыць з маладымі паравознікамі аб новых метадах ваджэння цяжкавагавых паяздоў. На здымку (злева направа): машыніст Л. Гляцэвіч, памочнік машыніста А. Барысевіч, машыніст А. Юранок, машыніст-інструктар Н. Багацель.



ўзгорку, недалёка ад пуцей. Там знаходзіцца аддзяленне чыгункі, там — дыспетчарская, адкуль у розных напрамках — і ў бок Баранавіч, і ў бок Маладзечна, і ў бок Барысава — цягнуцца нябачныя ніці кіраўніцтва складанай гаспадаркай чыгункі.

У невялічкім пакойчыку, схіліўшыся над дыспетчарскім пультам, на якім быў разасланы вялікі аркуш паперы, сядзеў дыспетчар Васіль Кунаеў. Ён нешта падлічваў, наносячы алоўкам на паперу тонкія лініі. Саладкоў зняў плашч, павесіў яго на крэсла, што стаяла ў кутку, паклаў зверху шапку.

— Ну, і надвор'е-ж сёння! — прамовіў Саладкоў, зазіраючы ў дыспетчарскі графік. — Нібы ўвосень.

— Так, надвор'е кепскае, — згаджаючыся, адказаў Кунаеў і хітравата ўсміхнуўся. — Але-ж не затым ты сюды прышоў, каб паведаміць мне пра надвор'е. Ці не так?

Таіцца не было чаго, і Саладкоў проста запытаў:

— Як там наш паравоз? Дзе зараз знаходзіцца?

— От з гэтага-б і пачынаў, — зноў усміхнуўся Кунаеў. Пасля, зрабіўшыся адразу сур'ёзным, паказаў пальцам тое месца графіка, дзе адна намаляваная каляровым алоўкам лінія рабіла нечаканы прыпынак, быццам у таго, хто вёў яе на паперы, нехапіла сілы давесці да канца.

— У Гарадзеі? — вочы Саладкова звузіліся, па ілбе пабеглі маршчыны. — Позніцца?

— На чатыры мінуты. Але-ж ты сам кажаш — надвор'е...

Саладкоў выпраміўся.

— Паклічце, калі ласка, да селектара машыніста Гляцэвіча.

Кунаеў пакруціў выклікальны ключ селектара, гучна сказаў у мікрафон:

— Гарадзей! Выклікаю Гарадзей!..

Знаходзячыся поўгадзіны назад дома іназіраючы з акна кватэры за тым, што робіцца на двары, Саладкоў на момант уявіў сабе: ён стаіць у паравознай будцы і вядзе поезд. Цяжка, вельмі цяжка весці яго ў такую пару... А як там Лёня Гляцэвіч?.. Саладкоў паімкнуўся прасачыць у думках шлях паравоза. Вось ён зрабіў у Баранавічах экіпіроўку, набраў у тэндар вады, вугалю, зрабіў запас змазкі. Падаўся да поезда. Прычапіўся. Сігнал адпраўлення — і паравоз зрушыў з месца, цягнучы за сабою доўгі эшалон вагонаў. А вецер лютуе — сустрэчны вецер, дождж сыпле і сыпле — часты, дробны, як увосень. Цяжка Лёню, цяжка і памочніку Сашу Барысевічу, і качагару Васілю Сімуткіну. Маладыя яны яшчэ паравознікі. Як патрэбна ім зараз парада!

Прыгадалася Саладкову адна размова з сакратаром партыйнай арганізацыі дэпо Васілём Фёдаравічам Балыбердзіным. Тады Балыбердзін сказаў яму:

— Ведай, таварыш Саладкоў, ты не толькі старшы машыніст на паравозе нумар тысяча дзевяноста пяць. Ты — комуніст. Астатнія члены брыгады — комсамольцы. Гэта ўскладвае на цябе дадатковыя абавязкі. Разумееш?

Доўга гаварылі яны тады. Размова тая глыбока запала ў душу Саладкова. А пасля, на партыйным сходзе, на якім абмяркоўвалася пытанне аб рабоце паравознікаў па новаму ўшчыльнёнаму графіку, Саладкоў даў абяцанне вывесці паравоз на першае месца па дэпо.

Зараз можна лічыць, што гэтае абяцанне выканана. Але-ж хіба справа на гэтым і скончылася?..

Не, не мог уседзець дома сёння Саладкоў. Паціху падняўся, неўпрыкметку, каб не заўважыла жонка, апрануўся і — шась на двор. Праўда, утаіць ад жонкі не ўдалося, але, ведаючы неўгамаваны характар мужа, яна нічога не сказала яму. «Калі Змітрок надумаўся некуды ісці ў такую непагадзь, — значыцца, справа важная, неадкладная».

— Гарадзей! — паўтарыў у мікрафон Кунаеў. — Выклікаю Гарадзей!

— Станцыя Гарадзей слухае! — азваўся з дынаміка жаночы голас.

— Паклічце да селектара машыніста Гляцэвіча! — загадаў дыспетчар.

— Ёсць паклікаць машыніста Гляцэвіча! — весела прамовіла дзяжурная па станцыі.

Праз якую хвіліну знаёмы, трохі ўсхваляваны голас Гляцэвіча гучэў з дынаміка:

— Я вас слухаю, таварыш дыспетчар!

— Будзеце гаварыць са старшым машыністам Саладковым.

— Саладковым?! — узрушана сказаў Гляцэвіч і паспешліва дадаў: — Ну, ну, давайце!..

Змітрок Саладкоў падышоў бліжэй да мікрафона, спакойна запытаў:

— Як працуе машына, Лёня?

— Нармальна... — нерашуча адказаў Гляцэвіч.

— Топку чысціў?

— Не, думаю пачысціць у Негарэлым. Пары, здаецца, дастаткова. Даедзем.

— Рызыку, Лёня, я таксама люблю. Але ў даным выпадку гэта не рызыка, а неабдуманае дзеянне. Упэўнены, што ў топцы зараз сінія агеньчыкі. А гэта — верная адзнака, што топка патрабуе, каб пачысцілі яе. Зразумеў?

— Зразумеў!

— Як мяркуеш пераадолець пад'ём пасля Негарэлага? Уліч — вецер сустрэчны. Я на тваім месцы зрабіў-бы вось што...

Слухаючы размову Саладкова з Гляцэвічам, удумваючыся ў парады, якія даваў машыніст свайму малодшаму напарніку, дыспетчар міжвольна прыгадаў адзін выпадак.

Было гэта мінулай зімой. Лёня Гляцэвіч паехаў са сваёй брыгадай у чарговы рэйс. У дыспетчара, які дзяжурыў тады, не было падстаў непакоіцца пра зыход рэйса. Эшалон быў сфарміраваны і агледжаны перад адпраўленнем па ўсіх правілах, вага яго была нармальная, паравоз быў у парадку.

Аднак справа павярнулася зусім інакш, чым меркаваў дыспетчар. На першым-жа перагоне поезд нечакана спыніўся. Машыніст запатрабаваў дадатковы паравоз. Гэта прывяло да таго, што поезд затрымаўся на цэлую гадзіну, рух на ўчастку быў парушаны, выбіліся з графіка тры іншыя паязды.

На аператыўнай нарадзе, якая была склікана для абмеркавання гэтага выпадку, машыніст ускладаў усю віну на пуцейцаў, якія незадоўга перад тым паставілі на адным з кілометраў папярэджанне аб абмежаванні хуткасці. «Пакуль я тармазіў, прыцішаў ход, — гаварыў Гляцэвіч, — ціск пары ў катле паменшыўся настолькі, што поезд спыніўся. А было гэта якраз на пад'ёме. Скрануць поезд з месца адным паравозам не было ўжо магчымасці».

Некаторыя з прысутных, галоўным чынам паравознікі, згадзіліся са словамі Гляцэвіча. І нарада схілялася ўжо да таго, каб апраўдаць машыніста, прызнаць яго невінаватым у затрымцы поезда, у парушэнні руху на ўчастку. Тады слова ўзяў напарнік Гляцэвіча, старшы машыніст Саладкоў. Ён ушчэнт разбіў доказы свайго напарніка, пераканаўча давёўшы, што вінаваты ва ўсім іменна ён, машыніст Гляцэвіч, а не пуцейцы, якія правільна зрабілі, забараніўшы праезд з высокай хуткасцю па небяспечнаму месцу. Машыніст-жа, ведаючы пра папярэджанне аб абмежаванні хуткасці, праявіў нядбайнасць, не ўжыў загадзя неабходных мер, якія-б забяспечылі нармальны рух поезда. Такім узлаваным, як у той раз, дыспетчар ніколі не бачыў Саладкова.

Пакрыўдзіўшыся на старшага машыніста, Гляцэвіч, які атрымаў тады спагнанне, паімкнуўся быў перайсці працаваць на другі паравоз. Начальнік дэпо адмовіў яму ў гэтым. Гляцэвіч застаўся на адным лакаматыве з Саладковым. А неўзабаве ён зразумеў, што Саладкоў гэтак жорстка выступіў тады для яго-ж, Гляцэвіча, карысці. Сапраўды, што атрымалася-б, каб маладому машыністу ўдалося зваліць сваю віну на другіх? Ці не пайшоўбы ён па той сцежцы, якая ніколі не прыводзіць да добрага?..

І вось цяпер, слухаючы размову Саладкова з Гляцэвічам, Кунаеў радаваўся і за аднаго, і за другога. «Якая-ж, браце, у цябе добрая, высакародная душа! — думаў ён пра Саладкова. — Сапраўдны ты чалавек. Сапраўдны комуніст».



**Рыхтуючыся да чарговага рэйса, маладыя паравознікі старанна правяраюць кожную дэталь лакаматыва.** На здымку (злева направа): **памочнік машыніста А. Барысевіч і машыніст А. Юранок.**

— Так што едзь упэўнена, смела адчыняй вялікі клапан,— заканчваючы размову, гаварыў Саладкоў.— Спазненне ліквідуеш, я не сумняваюся ў гэтым. Буду сустракаць цябе ў Мінску...— ён паглядзеў на графік,— буду сустракаць у 22 гадзіны 34 мінуты. Шчаслівай дарогі!

— Дзякуй!— выгукнуў дынамік голасам Гляцэвіча.— Шчырае дзякуй!

З пакоя дзяжурнага па станцыі Гляцэвіч рушыў подбегам. Камсамольцы з нецярплівасцю чакалі яго на паравозе. Машыніст учапіўся за поручні, ускочыў у будку, імклівым рухам адчыніў дзверцы топкі... Сінія языкі полымя лізалі столь...

— Прыступайце да чысткі топкі!— тонам камандзіра, што добра ведае, як трэба весці наступленне, каб дамагчыся перамогі, аддаў загад Гляцэвіч.

Качагар Васіль Сімуткін незадаволена прабурчэў:

— І так познімся. Пакуль чысціць будзем— колькі часу пройдзе.— І дадаў у бок памочніка, разлічваючы на яго падтрымку:— Мо' рызыкнём, дый пераскочым да Негарэлага?..

— Я табе рызыкну!— выгукнуў Гляцэвіч.— Пачынаем чысціць!

... Імчыць поезд. Ззаду засталіся станцыйныя пабудовы, прамільгнуў выхадны светафор. Моцны прамень пражэктара слізгае па бліскучых рэйках, выхоплівае з цемры дзівосныя малюнкі навакольнага пейзажу.

Хутка імчыць поезд, і, нібы напалоханы гэтым імклівым непераможным рухам, сціхае вецер, радзей пачынае імжэць дождж, а неўзабаве і зусім спыняецца. Цяпер толькі адзін гук— гук усё нарастаючай хуткасці поезда ляціць па наваколлю.

— Ідзем дакладна па графіку!— крычыць камсамолец Барысевіч машыністу, і ў голасе яго выразна гучаць ноткі задавалення. А Гляцэвіч і сам ведае гэта. Так, спазненне ліквідавана, у Мінск поезд прыдзе ў вызначаны час.

Мільгаюць тэлеграфныя слупы, кіламетровыя ўказальнікі, адзінокія дрэвы. Машыніст высунуўся ў акно, падставіў твар пад струмені свежага, чыстага паветра. Дыхаецца лёгка, вольна.

Вось і Мінск. Станцыйныя пуці ярка асветлены электрычнасцю. Яшчэ здалёк пазнае Гляцэвіч побач з постаццю дзяжурнага, які сустракае поезд па абавязку службы, знаёмую постаць Змітрака Саладкова, якога прывёў сюды абавязак сяброўства. І не паспеў паравоз спыніцца, не паспеў Гляцэвіч саскочыць на зямлю, як Саладкоў ужо моцна ціснуў ягоную руку.

— Віншую, Лёня, з перамогай!

— Гэта твая перамога, Змітрок!— засупярэчыў Гляцэвіч.— Калі-б не ты...

— Пакінь, пакінь,— засмяяўся Саладкоў.— Я-ж цябе добра вывучыў: на ляту ўсё хапаеш!

Да іх набліжаўся машыніст Алесь Юранок са сваім памочнікам Расціславам Нікановічам і качагарам Васілём Бачылам,— усе камсамольцы. Яны ішлі прымаць паравоз, каб весці поезд далей па маршруту.

3

Усё ішло так, як і трэба было. Алесь Юранок задаволена выцер рукі пакляй, зірнуў на гадзіннік і сказаў:

— Экіпіраваліся ажно на поўгадзіны раней тэрміну. Можна і ехаць.

— Штосьці дзяжурнага не відаць,— заўважыў Нікановіч.— Хай-бы даваў адпраўленне. Састаў таксама падрыхтаваны.

Качагар Васіль Бачыла, які стаяў на тэндары, паведаміў:

— Вунь ён ідзе!— і кулём скаціўся ў паравозную будку.

— Значыцца, едзем!

Але дзяжурны, замест таго, каб прыпыніцца і, як звычайна, узняць угару сцяжок, даючы гэтым сігнал адпраўлення, чамусьці ўсё ішоў і ішоў проста да паравоза. Паравознікі насцярожыліся.

— Відаць, нешта здарылася...— заклапочана прамовіў Бачыла.— А я думаў— паедзем раней графіка, дадуць нам «зялёную вуліцу»— ох, і паляцелі-б!..

Дзяжурны, камечачы ў руках сцяжок, няёмка пачаў:

— Вось што, хлопцы... Прыдзецца адчапляцца...

— Што?— ускрыкнуў Юранок.— Як гэта— адчапляцца?

— Возьмеце эшалон з вугалем, вунь ён стаіць.

— А гэты?

— Крыху пастаіць. Паравозаў болей няма. Усе ў дарозе. А эшалон з вугалем трэба адправіць тэрмінова. Зразумела?

— Тады, што-ж... Тады, канешне...

— А што, калі-б...— задуменна прамовіў Алесь Юранок, але не скончыў сваю думку і змоўк. Камсамольцы зразумелі яго. Расціслаў Нікановіч узрушана падхапіў:

— Сапраўды, а што, калі-б узяць абодва эшалоны!?. Не стаяць-жа гэтаму тут ды чакаць нямаведама чаго.

Маладыя паравознікі ведалі, што ў дэпо ёсць ужо багата машыністаў, якія паспяхова водзяць цяжкавагавыя паязды, і нават такія, вага якіх удвая перавышае норму. Але-ж гэта рабілі звычайна сталыя, вопытныя машыністы, такія, як Баранаў, Жукаў, Карлаў, Забалотны... Аб іх даўно ідзе слава як аб майстрах ваджэння цяжкавагавых саставаў. А тут— маладыя хлопцы, на паравозе працуюць параўнаўча нядаўна...

— Нічога ў нас не атрымаецца,— сказаў Васіль Бачыла.— І думаць тут няма чаго...

Нечакана да паравоза падышоў машыніст-інструктар Нікалай Іванавіч Багацель. Ён чуў апошнія словы качагара і адразу ўступіў у гутарку.

— Вядома, з такім настроем нічога не атрымаецца.

Хлопцы маўчалі.

— А ведаеце, што дапамагае таму-ж Баранаву весці цяжкавагавы састаў? Песня. Звычайная песня. Заспявае ён «Варага», і паехаў. Поезд ляціць, а машыніст спявае. І ніякая сіла не можа пашкодзіць ні поезду, ні песні.

Алесь Юранок узняў вочы на Багацеля,— той быў значна вышэйшы за машыніста,— зрабіў крок да яго:

— Дапаможаце, Нікалай Іванавіч?

— От, гэта іншая справа.— Багацель паставіў на зямлю свой жалезны чамаданчык, выняў з кішэні пачак папярос.— Дапамагу. Таму і прышоў.

Манеўры былі зроблены хутка. Абодва саставы злучылі ў адзін. Паравоз падышоў да незвычайнага поезда. Юранок зірнуў уздоўж вагонаў. Доўгая чарга іх гублялася далёка ў цемры, і здавалася, што састаў бясконцы.

Машыніст-інструктар папрасіў запаліць факел. Узяўшы яго ў левую руку, Багацель пачаў хадзіць вакол паравоза, уважліва аглядаючы і нават мацаючы кожную дэталь. Не, прычапіцца не было да чаго. Брыгада як след падрыхтавала лакаматыў да рэйса.

Настрой у паравознікаў падняўся, ад нядаўняй няўпэўненасці, баязлівасці не засталося і следу.

Зараз дзяжурны па станцыі дасць сігнал адпраўлення. Багацель падняўся ў паравозную будку. Качагар Васіль Бачыла меркаваў, што машыніст-інструктар стане за правае крыло лакаматыва і сам павядзе поезд,— вучыцеся, моў, юнак, як трэба дзейнічаць у такіх выпадках. Але Багацель сеў на свой чамаданчык, зноў выняў папяросы. Нетаропка прыкурыў, зацягнуўся дымам.

Зацурчэў свісток галоўнага кандуктара. Гэта сігнал машыністу. Трэба кранацца.

— Ну, Аляксандр Пятровіч, пакажы, на што мы здатныя!— звярнуўся Багацель да Юранка.— Смялей, смялей! Спачатку асадзі крыху назад, хай буферы вагонаў сціснуцца, а потым і пераводзь рэверс на пярэдні ход. Вагоны самі падштурхнуць нас уперад.

Загудзеў паравоз. Залязгалі буферы вагонаў. Яшчэ хвіліна— і поезд плаўна крануўся з месца.

Такая ўжо звычка ў Багацеля: прышоўшы на паравоз, ён і не падумае стаць да рэверса. Навошта інструктару самому весці поезд, а машыністу быць у ролі наглядальніка? Не, няхай ён сам вядзе поезд. А ў патрэбны момант інструктар дасць яму неабходную параду, падкажа правільнае рашэнне, дапаможа знайсці выхад з цяжкага становішча. Ды і астатніх членаў брыгады не абміне ён сваёй увагай.

— А цяпер не лішне было-б уключыць пясочніцу,— гаворыць Багацель машыністу,— трэба падсыпаць пяску на рэйкі. Пачынаецца пад'ём, паравоз можа з такім поездам забуксаваць.

— Раўней, раўней кідай вугаль у топку,— заўважае памочніку,— не звальвай у адну кучу. Лепш будзе гарэць, больш пары нагоніць.

— Бачыш,— драбнаватае сёння далі нам паліва,— звяртаецца да качагара.— Трэба паліць яго вадой, не так хутка будзе вылятаць у трубу.

... У Барысаў прыехалі дакладна ў вызначаны дыспетчарам тэрмін. Развітваючыся, Нікалай Іванавіч Багацель прамовіў:

— Назад вы і без мяне даедзеце, састаў будзе звычайны. А я да машыніста Кулінскага пайду. Нешта ён у апошнія дні занадта многа вугалю паліць...

Высокая шыракаплечая постаць Багацеля растала ў цемры.

— От гэта чалавек!— зачаравана прамовіў Юранок.— Колькі ў яго клопатаў аб нас, маладых паравозніках!

— Пасада ў яго такая— інструктарская,— сказаў Бачыла.

— Не ў пасадзе справа,— засупярэчыў Нікановіч.— Сэрца ў яго такое. Сэрца камуніста.

**Васіль МАТЭВУШАЎ**

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

Станіслаў Феліцыянавіч Вольскі наважыў пагаварыць з рэбятамі.

Каб не зацягваць работу над мазаічнай рамай, ён прапанаваў арнамент зрабіць з дрэва іншага колеру. Рэбяты запярэчылі: дубовыя лісты, канюшына і раптам — не зялёныя?!

— Станіслаў Феліцыянавіч, а калі дуб выварыць у разведзенай зялёнай фарбе, альбо проста пафарбаваць?..

Інструктар па вопыту добра ведаў, што ўсё гэта не прынясе жаданых вынікаў: такое дрэва абавязкова зменіць колер, а праз некаторы час — зусім выцвіце.

Яго адмоўны адказ вельмі засмуціў выхаванцаў.

— Калі ў іншых месцах ёсць такое дрэва, не можа быць, каб і ў нас яно не знайшлося, — не адступалі рэбяты.

Станіслаў Феліцыянавіч неадкладна напісаў на базы забеспячэння, але адказу ўсё не было. А рэбяты не гублялі надзеі, што і ў суседнім лесе можна знайсці зялёнае дрэва. Яны пільна прыглядаліся да абрываў, выцягвалі з лясных балот рэшткі буралому... Калі-ж былі знойдзены першыя кавалачкі пазелянелай бярозы, юныя майстры яшчэ больш упарта прадаўжалі пошукі...

— Ёсць недзе і зялёнае дрэва. Напэўна ёсць! — гаварылі дзеці, усцешаныя першай удачай.

І сапраўды, праз некалькі дзён яны прыбеглі да Станіслава Феліцыянавіча, падаючы яму вільготны кавалак дрэва.

— Знайшлі ў лясной нізіне! Бачыце, зялёнае!..

Інструктар разглядаў находку і загадкава маўчаў...

— Ну як, падыйдзе?

— Трэба спадзявацца. Вось высушым, зробім выпрабаванне... Трэба, рэбяты, пашукаць яшчэ. Гэты кавалак, магчыма, доўгі час валяўся на паверхні і трываласці ў ім малавата.

Разам са Станіславам Феліцыянавічам дапытлівыя выхаванцы дзіцячага дома накіраваліся ў лес. Доўга яны капалі рыдлёўкамі ў нізіне, вострымі шчупамі пратыкалі балоцістую зямлю. І калі знаходзілі камлі даўно паваленых дрэў, адразу-ж адкопвалі іх. Нарэшце знайшлі тоўстае бярозавае бервяно. Абцерлі слізоту, надрэзалі і не верылі сваім вачам: дрэва было сапраўды зялёнае!..

Аналіз паказаў выдатныя вынікі. Неўзабаве да кавалачкаў шэрага і белага клёну, да чырвонага, цёмнага і светлага дрэва, да звычайнага і чорнага дубу, арэшыны, карэльскай бярозы, ясеня прыбавілася свая зялёная бяроза.

Гэты выпадак прыгадаўся інструктару як адзін з прыкладаў нястомных намаганняў дзіцячага калектыва ў авалоданні складаным майстэрствам. Два гады вучобы і напружанай працы засталіся за плячыма. Рэбяты з поспехам выканалі нямала работ па геаметрычнай і барэльефнай разьбе па дрэву, зрабілі мазаічны шахматны стол для піянерскага пакоя і цяпер, як вырашыў Станіслаў Феліцыянавіч, з поспехам маглі пераходзіць да больш складаных рэчаў.

...Дваццаць восем хлопчыкаў і дзяўчынак сабраліся ў майстэрні дзіцячага дома. Інструктар падрабязна расказваў аб складаных мазаічных работах, якія можна ўбачыць у музеях Масквы, Мінска і іншых гарадоў.

— А хіба мы горш зробім? — першай загаварыла Святлана Пашкевіч.

— У гэтым ніхто не сумняваецца, — падбадзёрваў інструктар.

— Зробім, абавязкова зробім усё! Вы нас навучыце! — упэўнена заявілі рэбяты.

Станіслаў Феліцыянавіч быў вельмі задаволены.

— А вось мы давайце зробім так, — параіў ён, — падумайце дзень-два аб новай рабоце, зрабіце эскізы, а пасля абмяркуем і лепшае будзем рабіць.

Рэбяты моўчкі выходзілі з памяшкання, кожны са сваімі думкамі... У гэтую ноч ім доўга не спалася.

...Трынаццацігадовы Міхась Матылёў не памятае ні бацькі, ні маці. Бацька пайшоў на фронт у першыя дні вайны і не вярнуўся, а маці расстралялі гітлераўскія захопнікі. Аб тым, што хлопчыку давялося перацярпець, — цяжка і расказаць.

Калі прыйшла Савецкая Армія, Міхася ўзялі ў дзіцячы дом. Радзіма, як добрая маці, сагрэла яго ласкай, дала яму шлях у жыццё.

Міхась не спіць. Яго думкі ляцяць у Маскву, на Красную плошчу. У кіно ён бачыў, як там ішлі палкі на фронт.

«Вось-бы такую мазаічную работу: «Сталін на маўзалеі ў кастрычніцкае свята 1941 года», — у захапленні думаў Міхась.

«Як хораша можна зрабіць такі цудоўны малюнак-мазаіку!»

Амаль да світання не спалася Леаніду Халізе. Многа падзей успомнілася хлопчыку. Ён добра памятаў першыя дні вайны, калі ў роднай вёсцы недалёка ад Чаус загарэлася яго хата. А потым, калі яны ўцякалі ад фашысцкага нашэсця, на пыльнай дарозе сям'ю іх насцігла варожая бомба... Лёня застаўся адзін...

У розных пакоях дзіцячага дома маладыя майстры думалі аб адным. А раніцой яны адразу накіраваліся ў майстэрню. Абступіўшы Станіслава Феліцыянавіча, з радасцю заявілі:

— Прыдумалі, прыдумалі!

Інструктар не зводзіў позірку з бліскучых вачэй выхаванцаў.

— Ну, што-ж вы прыдумалі?

— Станіслаў Феліцыянавіч, паслухайце мяне, — настойліва дабіваўся Лёня.

— Мяне паслухайце, мяне! — перабівалі адзін аднаго Алесь Дзенісевіч, Міхась Дземчанка, Мікола Маёраў, Святлана Пашкевіч, Анатоль Ерохаў.

Інструктар ледзь супакоіў рэбят.

— Будзем гаварыць па парадку, — прапанаваў ён.

Доўга ішло творчае абмеркаванне. Удзельнікі мастацка-мазаічнага гуртка Магілёўскага дзіцячага дома № 6 аднадушна прыйшлі да згоды: стварыць партрэт Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

На наступны дзень у майстэрні закіпела работа. Рэбяты пілавалі на драбнюткія кавалачкі пароды дрэў, раскладалі іх па скрынках, нумаравалі. Калі была закончана падрыхтоўка, пачалася найбольш адказная работа. Дзеці з асаблівай стараннасцю, з асаблівай любоўю бралі ў рукі кожны квадрацік дубу, карэльскай бярозы...

Рэбяты працавалі старанна. Інструктар па працы Станіслаў Феліцыянавіч уважліва і строга сачыў за кожным працэсам, нястомна дапамагаў у хутчэйшым завяршэнні работы.

І вось настаў незабыўны дзень. 216864 кавалачкі з 18 парод дрэва былі па-майстэрску ўкладзены ў гэты цудоўны партрэт.

Дзеці з невыказным пачуццём глядзелі на партрэт, і кожны з іх ад шчырага сэрца хацеў быць будаўніком комунізма, дастойным сваёй вялікай маці-Радзімы.

## СУСТРЭЧА З МАСКВОЙ

**З дзіцячых год на ўсё жыццё я**
**Здружыўся з роднаю Масквою.**
**Хоць я ў маленстве ў ёй не быў,**
**Ды з тых часоў Масква мая**
**Запала ў сэрца самае...**
**Маскву я шчыра палюбіў.**

**І вось цяпер я тут, як дома.**
**Усё мне блізка і знаёма, —**
**Перада мной Масква мая!**
**Не запытаў нікога я,**
**Якой ісці дарогаю —**
**Усе пралеглі да Крэмля.**

**Мяне вітае з вежы Спаскай**
**Зара цяплом сваім і ласкай.**
**Стаіць на плошчы Маўзалей,**
**Граніт святло адсвечвае.**
**Сюды любоў сардэчную**
**Прыносіць плынь людзей.**

**Іду плячо к плячу з грузінам.**
**Тут сібірак з падросткам-сынам,**
**Юнак з кітайскае зямлі.**
**Тут, ля Крэмля, ля Маўзалея**
**Адчуў, як многа пасталеў я.**

**Мікола АРОЧКА,**
**студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.**

# Пераклічка сяброў

Людміл СТАЯНАЎ
Народная Рэспубліка Балгарыя

## Серп і молат

Серп і молат — простыя гукі,
Але сэнс які ўкладзены ў іх!
Нібы бачыш ты дужыя рукі
Над прасторам палёў залатых;
Нібы бачыш ты, як узлятаюць
Па-над молатам іскры зноў
І як сіла, любоў іграюць
У натхнёных вачах кавалёў.

Серп і молат — навекі гэты
Сімвал працы абраў народ.
Ён — крыніца святла над светам,
Зорка нашых вялікіх свабод;
Чэсць і слава нашай айчыны,
Гераізм яе змагароў;
Песня шчасця на ніве мірнай
І у цэхах каля станкоў.

Мы ў рады з'едналыя шчыльна,
Падружылі мы на вякі.
Скрыжаваны ў поціску шчырым
Дзве мазольных, дужых рукі.
У адзіным сэрцаў парыве
Плавім сталь, вырошчваем хлеб.
Славім мы ў адным калектыве
Серп і молат — наш слаўны герб.

Чэсць і слава сярпу сягоння,
Бо сягоння узняты ён
Над багатай нівай народнай,
Беражэ нашай працы плён.
Чэсць і молату. Ён не дарам
На будоўлі нам першы друг!
Пад яго баявым ударам
Усё змяняецца ў нас наўкруг.

Каб ніколі голад кастлявы
Для працоўных не нёс нягод,
Каб ніколі фашызм крывавы
Не знішчаў чалавечы род, —
Хай заўжды з намі дружыць радасць,
Хай вясна красуе ў палях,
Хай як сімвал народнай улады
Серп і молат жывуць ў вяках!

Пераклад М. ГАМОЛКІ.

Тадэуш КУБЯК
Польская Народная Рэспубліка

## Вясна на будоўлі

Вызвоньваючы на сто галасоў,
Над будоўляй пранёсся лівень,
Ды з рыштавання юнак не сышоў —
Віхрасты, прамоклы, шчаслівы.

Пасля я з ім, як з дружбаком сваім,
Стаяў ля Палаца культуры,
І гэты вось верш я праверыў на ім
У кароткі час перакуру.

Вясновы дождж адшумеў даўно,
І нам глядзець было люба,
Што краны цэмент нясуць ізноў,
Як ластаўкі — зямлю ў дзюбах.

І гэты светлы высотны дом,
Які поўнеба засціў,
Здаваўся мне вялізным гняздом,
Вялізным гняздом шчасця.

Сяброў многа на будоўлі ў цябе,
І мне іх праца знаёма —
Будаваць так, як для сябе,
За тысячы вёрст ад дому.

Глядзі, як у моры начной сінявы,
Балоны ўздымаючы з газам,
Электразваршчыкі лезуць увысь,
Падобныя да вадалазаў.

Усе нашы песні, усе як ёсць,
Сальюцца ў напеў адзіны,
Калі, выпраменьваючы прыгажосць
Па роднай маёй краіне, —
Устане палац, як скала — супраць бур;
Ты, патужыўшы нядоўга,
На міг руку прыкладзеш к ілбу,
Убачыш бярозы над Волгай...
І я прачытаю напэўна ўраз
У вачах, якія ты жмурыш,
Што дружба зараз моцная ў нас,
Як мур Палаца культуры.

Пераклад М. АЎРАМЧЫКА.

Віктар ВАРАШЫЛЬСКІ
Польская Народная Рэспубліка

Сцяпану Шчыпачову

## Расія

Гасцінныя ў гэтым краі прасторы,
Тут людзі жывуць па-братэрску прыязна,
Тут нават самыя дальнія зоры
Бляск маюць цёплы, свецяцца ясна.
Тут нават паэт — шукальнік нястомны,
Што ў гушчы падзей кіпучых, жыццёвых
Прывык для песень сваіх векапомных
Знаходзіць новыя, светлыя словы,
І ён гаворыць здзіўлёны: — Здаецца,
Я сынам уласным зрабіўся, няйначай,
Бо сіла гадоў тут дням надаецца
І ў сённешнім дні ты заўтрашні бачыш.
Тое, што ў думках смелых узнікла,
Глядзі — набыло ўжо і кшталт і фарбы,
Стала не новым — звычайным і звыклым,
Стала даступным для кожнага скарбам.
Знаюць цану сабе ў гэтай краіне,
І як-бы вораг закляты і люты
Каварна не плёў сваё павуцінне
У сталіцах здрады, вайны і пакуты, —
Усё пераможа сілай вялізнай,
Розумам ясным, працай нястомнай
Народ першай краіны соцыялізма,
Што ў выпрабаваннях суровых нязломны.
Тут ля агністых струменяў металу
На вахце стаяць майстры-сталявары,
Тут праз пустэльні праводзяць каналы,
Смела ўзлятаюць на крылах пад хмары
Над ураджаем багатым айчыны,
Над маладымі палямі, садамі,
Роднымі вёскамі і гарадамі,
Дзе мірна працуюць, дзе адпачынак
Самы спакойны і вольны на свеце,
Дзе садавод у Сібіры сягоння
Яблык гадуе духмяны і чула
Песціць яго на руплівай далоні
Замілавана, як сам Мічурын.
Дзе кожны токар каля машыны,
Над кнігай у кабінеце вучоны,
Калгаснік у полі — працуюць натхнёна.
Творць яны. І каб гэтай краіны
Імя я забыў, дык тады-б зычліва
Назваў яе краем творцаў шчаслівых!
...Як сад убачыш, які зацвітае,
Думаеш: добра, што зямля-сланечнік
Твар узносіць — соцыялізм вітае,
Што будзе свяціць ёй, як сонца, вечна.

Пераклад А. ЗАРЫЦКАГА.

Эрых ВАЙНЕРТ
Германская Дэмакратычная Рэспубліка

## Святло ў Крэмлі

Заплюшчыш вочы перад самым сном,
І ў клетку кожную ўліваецца спакой.
Ды сэрца б'ецца: не стамляецца яно,
Кроў паранейшаму шлях прадаўжае свой.

Апоўначы гляджу ў акно: ўдалечыні
Крэмлёўскіх вежаў сілуэты бачу я.
Спакойна горад спіць, пагасіўшы агні,
Толькі яшчэ гарыць святло ў дамах Крэмля.

Я зноў углядваюся ў шэры змрок начы,
Дзе Крэмль, як вартавы. Увесь свет заснуў даўно.
Агнёў пагашаных я многа налічыў,
Вось толькі свеціцца яшчэ адно акно.

Пакуль працую, мне відаць святло Крэмля.
Палае небакрай істужкаю зары.
Гляджу ўдалечыню. Спіць мірная зямля,
Ды сэрца б'ецца. У Крэмлі святло гарыць.

Пераклад А. АСТАПЕНКІ.

КУБА
Германская Дэмакратычная Рэспубліка

## Наш край штодня дужэе

Наш край штодня дужэе,
Расце, як рунь вясной.
Жыты ў палях мы сеем —
Лягчэй зямлі маёй.

А там, за Эльбай, танкі
Чужы салдат вядзе.
Няпраўду сеюць янкі,
І вось — зямля ў бядзе!

Што вырасце, скажыце,
У гэтых плугароў?
Не вецер шэпча ў жыце —
Смерць ходзіць між палёў.

Браты і Рэйн і Одэр —
Адна вада бяжыць.
І Эльба будзе Эльбай,
А ранай ёй не быць!

Ад добрых пажаданняў
Вясне не быць яшчэ.
Адкрыта наша рана,
Баліць яна, пячэ.

Так! Гэты боль няспынны
Пячэ сваім агнём...
Ідзі-ж па ўсёй краіне
У любы нямецкі дом!

Устань, хто сэрца мае!
За праўду стань грудзьмі,
За шчасце свайго краю
Сцяг барацьбы ўздымі!

У міры быць жаданым
Хацеў народ заўжды.
Хай зънікнуць толькі раны,
Міне і боль тады!..

Пераклад Р. НЯХАЯ.




# Сын лесніка

Георгі ШЧАРБАТАЎ

Нарыс

Фота А. Дзітлава.

У канцылярыі інстытута Паджараву сказалі:

— Запоўніце асабовы лісток і напішыце аўтабіяграфію.

Студэнт падумаў: «Значыць, хутка на работу...» — і ў шэрых вачах яго з'явілася шчаслівая ўсмешка.

Хлопец узяў у сакратара анкету і пайшоў у інтэрнат. Невысокага росту, шырокаплечы, з пышнай русай чупрынай, ён выглядаў ужо сталым чалавекам, хоць у яго паводзінах было яшчэ штосьці юнацкае. Ён пераскочыў канаву, пракапаную перад будынкам інстытута, хоць тут можна было перайсці цераз мосцік, і, энергічна размахваючы рукамі, амаль подбегам падняўся на трэці паверх.

У пакоі ён убачыў сваіх таварышаў, якія з заклапочаным выглядам запаўнялі анкеты. Чарнявы, шырокатвары Міша Чараміскін, удмурт па нацыянальнасці, увесь час круціўся на табурэце і, раз-по-разу падхопліваючыся, з роспаччу гаварыў:

— Ну, што мне тут напісаць!

— Пра што? — спакойна і спачувальна пытаўся случчанін Павел Шыманскі.

— Мабыць, пра тое, як Чараміскін скідаў цара, — смяяўся блакітнавокі украінец Юрко Рогаў.

— Чаго ты смяешся, чаго? — злаваўся Чараміскін і падбягаў да Рогава. — Што ты напішаш вось у гэтай графе?

Юрко чытае пытанне анкеты аб удзеле ў Айчыннай вайне і змаўкае. Яму крыўдна, што не давялося ўдзельнічаць у баях з фашысцкімі захопнікамі. Але што-ж зробіш? І ён з іранічнай усмешкай адказвае:

— Напішам, Міша, што яшчэ пехатой пад стол хадзілі...

Чараміскін расчаравана махае рукой і, уздыхнуўшы, падыходзіць да Паджарава.

— Вось табе ёсць што напісаць, праўда, Віктар? — з шчырай зайздрасцю гаворыць ён.

Шэрыя вочы Віктара Паджарава задуменныя, засяроджаныя. Ён не адказвае Чараміскіну, а толькі сцвярджальна ківае галавой. У яго думках, нібы ветразі, праплываюць малюнкі яго маленства, юнацкіх год, яго сталасці. Сапраўды, як многа ён пражыў за свае дваццаць сем год! Сын лесніка, стаўшага затым майстрам лесараспрацовак і нарэшце ляснічым, Віктар аб'ездзіў разам з бацькам амаль усю Беларусь. Ён моцна палюбіў родныя беларускія лясы. Цэлымі днямі ён блукаў па лясных сцяжынках, услухоўваўся ў патаемны шэпт дрэў, нібы разгадваючы іх адвечную песню, ведаў усе птушыныя гнёзды, умеў пераймаць галасы звяроў і птушак. Па слаях на пні ён мог беспамылкова вызначыць узрост дрэва, па галінах — кірунак свету. І здавалася, што ў лесе для яго няма нічога загадкавага.

Усё гэта вельмі спатрэбілася хлопцу ў час вайны. Вясною 1942 года клімавіцкія партызаны прыслалі да былога работніка Мілаславіцкага лясніцтва сваіх сувязных. На здзіўленне ўсёй сям'і, партызаны прапанавалі бацьку стаць тут ляснічым.

— Зразумей, Кузьма Васільевіч, нам тут патрэбен свой чалавек, — тлумачылі партызаны.

Бацька згадзіўся. З гэтага часу ўсё жыццё Паджаравых перайначылася. Кузьма Васільевіч часта выязджаў у Клімавічы, часам бываў там і два, і тры дні і вяртаўся вельмі задаволены.

— Ну, Віця, рыхтуйся па грыбы, — звычайна ў такіх выпадках гаварыў бацька, і Віця ведаў, па якія «грыбы» яму трэба рыхтавацца. Ва ўсякі час дня і ночы ён знаходзіў у лесе лагер партызанскага атрада імя Лазо, перадаючы камандзіру каштоўныя звесткі.

Нейкі здраднік выдаў сям'ю партызанскіх сувязных. Вясною 1943 года Паджаравы былі арыштаваны гестапаўцамі. Бацька, маці і малодшы брат трапілі за фашысцкія краты ў Рослаўлі, а затым у Бабруйску, а Віктар — у Клімавіцкі канцэнтрацыйны лагер. Семнаццацігадовы юнак мужна пераносіў усе катаванні. Аднойчы ён уцёк з лагера і апынуўся ў партызанскім атрадзе імя Лазо.

Так пачалася ваенная біяграфія Віктара Паджарава.

Калі Віктар даходзіць да пытання ў анкеце аб удзеле ў Айчыннай вайне, на яго твары з'яўляецца ўсмешка. Ён успамінае цяжкія ўздыхі Чараміскіна, успамінае што бацька Мішы — маёр Савецкай Арміі ўдзельнічаў у вызваленні нашай рэспублікі ад гітлераўскай няволі, і Віктару хочацца сказаць хлопцу нешта цёплае, сяброўскае. Недзе на франтах Айчыннай вайны загінуў бацька Юрко Рогава. «Магчыма, таксама ў Беларусі, — думае Віктар. — А ў нас наперадзе столькі працы, усюды можна даказаць сваю вялікую любоў да Радзімы».

Высокі, стройны, з прыгожай шапкай ільняных валасоў, Юрко Рогаў першы ўстаў з-за стала і прамовіў:

— Панясу сваю анкету!

Сябры правялі яго прыязнымі позіркамі.

А ўспаміны Паджарава зноў увайшлі ў сваё рэчышча. Разам з партызанамі ён удзельнічаў у шматлікіх баях, а калі прышла наша армія — стаў яе радавым байцом. У адным з баёў ён быў паранены і вывезены далёка на ўсход у шпіталь.

Вярнуўся Паджараў у родную Беларусь ужо тады, калі была вызвалена яе сталіца — Мінск. Свой шлях на захад ён пачаў ад заходняй граніцы рэспублікі. Гэта быў ужо сталы воін. Яго прызначылі камандзірам кулямётнага разліку. Кулямёт Паджарава добра ведалі ўсе. Не аднойчы ў баі можна было пачуць:

— Паджараў, усып ім, братка!

І Віктар ішоў на самыя небяспечныя ўчасткі бою. Асабліва вызначыўся кулямётчык пры фарсіраванні ракі Віслы. Ён адзін з першых пераправіўся цераз раку і стойка ўтрымліваў плацдарм на яе заходнім беразе. За мужнасць і адвагу Віктар быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Звязды.

22 красавіка 1945 года часць, у якой ваяваў Паджараў, вяла баі за адну з прыгарадных берлінскіх станцый. Наперадзе была сталіца фашысцкай Германіі. Але ўдзельнічаць у баях за Берлін Віктару не давялося: ён быў цяжка паранены.

Пасля дэмабілізацыі Віктар адразу вырашыў паступіць у Мінскі лесатэхнічны інстытут імя С. М. Кірава, стаць лесаводам.

* * *

Хлопец хадзіў па інстытуцкіх калідорах, чытаў назвы кафедраў, расклады заняткаў розных курсаў і ўсё больш пранікаўся павагай да інстытута. Дэндралогія, фітапаталогія, энтамалогія, геадэзія, лясная таксацыя — чытаў Паджараў і здзіўляўся. Раней яму здавалася, што ён усё ведае аб лесе. А тут столькі невядомага! Настойлівы і энергічны, ён сур'ёзна ўзяўся за вучобу. Лепшыя знаўцы лесу — прафесар, доктар сельскагаспадарчых навук В. К. Захараў, доктар сельскагаспадарчых навук П. П. Рагавы, доктар хімічных навук К. Н. Караткоў, прафесар Б. Д. Жылкін з любоўю, з глыбокім веданнем справы расказвалі аб складаным жыцці лесу, аб працэсах, якія адбываюцца ў кожным дрэве, аб узаемасувязях паміж лесам, кліматам і глебай, аб уласцівасцях кожнай пароды дрэў і шмат іншага. Навука паступова пачала раскрываць перад Паджаравым свае таямніцы. Яго больш не палохалі незразумелыя словы. Ён старанна вывучаў і фітапаталогію — навуку аб хваробах раслін, і энтамалогію — навуку аб насякомых, і мог ужо сам растлумачыць прычыны многіх з'яў, што адбываюцца ў лесе.

Усё больш раскрывалася перад юнаком вялікая роля лесу ў народнай гаспадарцы. Аднойчы ён



**Віктар Паджараў** (у цэнтры) **знаёміць сяброў Юрко Рогава** (злева) **і Міхаіла Чараміскіна са сваёй навуковай работай.**

чытаў кнігу Ф. Энгельса «Дыялектыка прыроды». Яго асабліва ўразіла адна думка.

— Паслухайце, што піша Энгельс пра лясы, — звярнуўся ён да таварышаў па пакою.

Юрко Рогаў адклаў убок раман, Чараміскін падсунуў бліжэй да Віктара сваю табурэтку.

«Людзям, — пачаў чытаць Паджараў, — якія ў Месапатаміі, Грэцыі, Малой Азіі і ў другіх месцах выкарчоўвалі лясы, каб здабыць такім шляхам ворыўную зямлю, і не снілася, што яны гэтым паклалі пачатак цяперашняму заняпаду гэтых краін, пазбавіўшы іх, разам з лясамі, цэнтраў накаплення і захавання вільгаці».

Гэта ўказанне Ф. Энгельса выклікала глыбокі роздум студэнтаў. Нейкі час кожны з іх у думках разважаў аб яго значэнні. Віктар сказаў:

— А ў Беларусі колькі лясоў за вайну зглумілі фашысты. І высякалі, і бомбамі палілі...

— Лясы — гэта багацце, — задуменна прагаварыў Юрко Рогаў. Яго вочы засвяціліся нейкай асаблівай прыязню да Віктара. Звяртаючыся да сябра, Юрко сказаў:

— Я вось пабываў у беларускіх лясах і на ўсё жыццё палюбіў іх. Колькі ў іх харастве і прыгажосці!

— А колькі карысці яны прыносяць! — дадаў Паджараў.

— Так, — згадзіўся Юрко. — Паеду на Украіну, усё жыццё буду садзіць лясы!

Такія задушэўныя гутаркі яшчэ больш зблізілі сяброў. У іх праяўлялася душа чалавека. Віктар ужо ведаў, што кожны яго сябра марыць трапіць туды, дзе ідуць будоўлі пяцігодкі, трапіць на дзяржаўныя полеахоўныя палосы. Цудоўныя мары! Ён і сам не раз аб гэтым думаў і рыхтаваўся да сур'ёзнай працы. Студэнт настойліва вывучаў Вільямса, Дакучаева, Тіміразева, Мічурына, Лысенку, вучыўся кіраваць працэсамі росту дрэў, даследаваў умовы, пры якіх магчыма паскарэнне росту лесу. У яго дзённіку эпіграфам стаяць словы Тіміразева аб тым, што земляроб і лесавод «імкнуцца падпарадкаваць раслінны арганізм сваёй уладзе, накіраваць яго дзейнасць так, каб ён даваў магчыма большую колькасць прадуктаў магчыма лепшай якасці».

Ужо на другім курсе Віктар Паджараў становіцца самым актыўным удзельнікам студэнцкага навуковага гуртка. Прафесар Б. Д. Жылкін прапанаваў яму тэму: «Уплыў хвойніка-бруснічніка на снегаадкладанне». Тры зімы падрад студэнт распрацоўваў гэтую тэму. Ён многа разоў выязджаў у Негарэльскі вучэбна-вопытны лесгас, дзе праводзіў доследы, некалькі разоў кансультаваўся з кіраўніком яго навуковай работы прафесарам Жылкіным. У мінулым годзе ён перадаў сваю навуковую работу вучонаму савету інстытута. Відныя спецыялісты чыталі яе з задавальненнем. Яны радаваліся, што студэнт самастойна глыбока, па-навуковаму абгрунтавана распрацаваў важную ў лесаводстве тэму. У тым-жа годзе работа Паджарава атрымала вышэйшую ацэнку на гарадскім аглядзе студэнцкіх навуковых работ. Аўтар яе быў узнагароджаны Ганаровай граматай ЦК прафсаюза работнікаў вышэйшай школы і навуковых устаноў.

Удумлівы, разважлівы, актыўны ўдзельнік усіх інстытуцкіх мерапрыемстваў, кіраўскі стыпендыят, Віктар Паджараў карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод студэнтаў. Двойчы яго выбіралі сакратаром комсамольскай арганізацыі лесагаспадарчага факультэта. Кожны ў інстытуце ведае гэтага сціплага хлопца і можа ахвотна расказаць аб яго вучобе, аб навуковай і грамадскай рабоце.

* * *

Станькаўская лясная дача. Лес напоўнены водырам хвоі. Побач шумяць маладымі лістамі магутныя сібірскія лісцвеніцы, невядома калі і кім сюды прывезеныя. У лесе стаіць разнагалосы гоман птушак.

Па дарозе ідуць трое — Віктар Паджараў, яго лепшы сябра Юрко Рогаў і іх аднакурсніца Зіна Ананьева. У дзяўчыны тонкі і стройны, нібы ў бярозкі, стан, невялікі чарнявы твар з вострым носікам і прыгожымі карымі вачыма. Віктар час-ад-часу крадком паглядае на дзяўчыну: ён даўно кахае яе, але ўсё ніяк не адважыцца выказаць свае пачуцці. У позірку дзяўчыны, у яе адносінах да яго ён адчувае нейкую асаблівую цеплыню. «Трэба будзе тут і прызнацца ёй», — вырашае Віктар.

Студэнты прыехалі сюды, каб правесці шэраг даследаванняў, патрэбных для іх дыпломных праектаў. Тэма дыпломнай работы Паджарава — «Пабудова і гаспадарчае значэнне саснова-лісцвеных насаджэнняў штучнага паходжання». Ён быў тут ужо некалькі разоў, тут у яго свой «гадавальнік», дзе ён на розных глебах вырошчвае сібірскую лісцвеніцу. Студэнт ведае аб вялікім народнагаспадарчым значэнні гэтага дрэва, якое па сваіх якасцях уступае толькі дубу, і таму імкнецца высветліць усё, што звязана з яго ростам. На трох участках — чыстая лісцвеніца, чыстая сасна, змешаны лес. Ён праводзіць вымярэнне росту дрэў, даследуе іх карнявую сістэму, глебу, высвятляе, як дзейнічаюць на развіццё раслін розныя кліматычныя фактары. З доследаў і нагляданняў ён прыходзіць да вываду, што лісцвеніца можа добра развівацца ва ўмовах нашай рэспублікі. Студэнт навукова абгрунтоўвае, на якіх глебах лепш за ўсё развіваюцца лісцвеніцы, як патрэбна іх даглядаць і даказвае магчымасць і неабходнасць вырошчвання лясоў лісцвеніцы на Палессі.

З патрэбамі народнай гаспадаркі краіны звязалі свае дыпломныя работы і сябры Віктара Паджарава. Юрко Рогаў распрацаваў праект пастаяннага гадавальніка ў Негарэльскім вучэбна-вопытным лясніцтве. Міша Чараміскін напісаў дыпломны праект на тэму: «Параўнальны аналіз ходу росту саснова-бярозавых і сасновых пасадак».

У адной з аудыторый інстытута вісіць карта будоўляў нашай краіны ў пятай пяцігодцы. Каля яе стаяць Віктар Паджараў і Зіна Ананьева. Яны глядзяць на велічны размах будаўніцтва, і гордасцю свецяцца іх вочы. Яны ўяўляюць сваю Радзіму ў недалёкім будучым: над усёй зямлёй, нібы зоры, заззялі агні электралямпачак, загаманілі зялёныя дубровы ў стэпах, балоты ператварыліся ў квітнеючыя палі і сенажаці. А над краінай лунае радасная песня шчаслівых, совецкіх людзей, песня будаўнікоў комунізма.

У хлопца ўсхваляваны выгляд, ён запытальна глядзіць на дзяўчыну, потым пяшчотна бярэ яе за руку і ціха гаворыць:

— Куды-б ні ехаць, Зіна, толькі-б разам...

— Добра, — ціха гаворыць дзяўчына і моцна паціскае руку Віктара.



**Віктар Паджараў у лабараторыі глебазнаўства вядзе даследаванні глебы.**



У дэндралагічным садзе Беларускага лесатэхнічнага інстытута імя С. М. Кірава.
Злева направа: **прафесар Б. Д. Жылкін, выпускнікі-комсамольцы Л. Балашэвіч, З. Ананьева і В. Паджараў.**

**Фота А. Дзітлава.**



Знатная трактарыстка Зося Новаш у полі на трактары.
Фота А. Дзітлава.

# На нашым полі, полі калгасным...



Янка БРЫЛЬ

Фота А. Дзітлава.

Над зямлёй — красавіцкае неба: ахапкі белых хмар, халаднаватая просінь і жаўранкі... Зямля то светлашэрая, дзе не хадзіў яшчэ вясновы плуг, то сакавіта-цёмная, — і там, дзе ўлонне яе толькі раскрыта для новых зярнят, і там, дзе ўжо затоена грэецца безліч аўсяных, ячменных, пшанічных парасткаў. Сёння ўранку, здаецца, ужо значна смялей, як учора, зелянеюць прасторы ажываючай руні. Лагодныя шэрыя ўзгоркі ўдалечыні пацягнуты смугой. Паміж вёскамі, у лугавой даліне, цячэ апетая ў сардэчнай песні рэчанька. На шэрых коціках надрэчных вербаў гаспадарліва ўвіхаюцца пчолы, а на бярозах над стрэхамі хат ад радасці разводзяць крыллямі шпакі.

За ўзгоркам грукоча трактар. І мы ідзем на гэты гул.

Заданне наша яснае. На трактары — знатная трактарыстка заходніх абласцей рэспублікі... Больш таго — на трактары член урада, комсамолка Зося Новаш, імя якой пабывала ўжо ў многіх блакнотах, на многіх старонках газет. Заданне яснае — яшчэ раз расказаць аб ёй, — а ўсё-ж трывожна неяк ад думкі: як яна, Зося, цяпер? Ці не зазналася часам, не так успрыняўшы славу?..

Учора наш тэлефон з-за сотні кіламетраў данёс у рэдакцыю голас з Маладзечанскай МТС, які даволі ўрачыста паведаміў: «Зося Кірылаўна толькі што вярнулася з Мінска. Яна была на пленуме ЦК комсамола»... Мог-бы таварыш таксама сказаць: «Яна была на сесіі Вярхоўнага Совета»...

Пераходы даволі рэзкія: ад гэтай вось шэрай раллі — у залу паседжанняў Дома Урада, з-пад зіхатлівых, раскошных люстраў опернага тэатра — зноў на трактар, пад зоркі ці хмары начнога, халоднага неба... Як успрымае гэтыя пераходы простая дзяўчына з беднай калісьці вёскі Кучукі, Кірылава Зося, палавіна жыцця якой, да верасня трыццаць дзевятага года, прайшла ў парабчанскай хаціне маёнтка Малінаўшчына?..

Як відаць, славу Зося ўспрыймае правільна. Трактар грукоча даўно. «Ад саменькага світання гамоніць вось так, яшчэ да сонца, мусіць, пачала аратая наша», — горда паведаміла нам бабуля ў хаце на хутары, дзе размясцілася праўленне калгаса.

І вось ён, нарэшце, відаць — зосін бяссонны трактар. Мы ідзем па тугой, неўзаранай зямлі, а ён — дзябёлы, дужы ДТ-54 — цягне насустрач нам шырокую, на пяць плугоў, тлуста-бліскучую пад сонцам паласу раллі. Мы ў нейкай меры хвалюемся, чакаючы новай сустрэчы. У кішэні маёй карандаш мацней прытуліўся да скваплых старонак блакнота, а фотаапарат на грудзях майго сябра вось-вось, здаецца, адкрыецца, сам расплюшчыць сваё нецярплівае, зоркае вока...

— Нас падвялі! Глядзі — за рулём мужчына!..

І праўда — над маторам, у чорнай пройме акна што раз, то больш выразна відаць чорны чуб з-пад армейскай шапкі.

— Зося ў вёсцы! — крычыць нам з усмешкай нядаўні салдат. — Да старшыні пайшла.

Трактар мінае нас. На прычэпе — нярослае дзяўчо, відаць, без вопыту ў гэтай рабоце: з сядзення звісаюць кароткія ножкі ў бліскучых гумавых ботах, а рукі няўдала і, мусіць, звыш сілы стараюцца трымаць у спраўнасці працу пяці плугоў. На ўздыме з лагчынкі лемяхі выварочваюць жоўты пясок. Ідучы следам за трактарам, мы нават і не падазраем, што за ўзгоркам ля вёскі наспявае тым часам канфлікт. З-за гэтых самых рук, што няўмела кіруюць плугамі.

Канфлікт мы засталі ў самым разгары. На загуменнай дарозе, дзе трактар спыніўся, стаяла некалькі зацікаўленых асоб, у цэнтры якіх — дзяўчына ў квяцістай хусціне і ў чорных шараварах.

— Каго ты мне даў! — крычала яна. — Гэта, па-твойму, прычэпшчык?.. Эх, ты... старшыня!.. Не хочацца толькі чыстую праўду сказаць!..

Абурэнне гэтае — і выказанае і недасказанае — сыпалася на адну галаву. Мужчына ў расхрыстаным шынялі стаяў, даволі панура апусціўшы вочы, а рукі яго былі амаль да локцёў схаваны ў кішэнях ватных штаноў.

— З табой, як бачу, мы ступім далёка наперад! — наступала дзяўчына. — Гора ты маё задрыпанае! Ну, што ты думаеш, як той, не раўнуючы, змучаны конь!.. Давай прычэпшчыка, а то я цябе тут... От чалавек!..

Старшыню гэтага мы бачылі ўчора на важным паседжанні. Амаль таксама ён стаяў перад сходам, вяла расказваючы людзям, што ў «сучасны перыяд калгас наш перажывае перыяд веснавой сяўбы»...

— Вы не крычыце, Зося Кірылаўна, — азваўся ён нарэшце. — Я падумаю і падшукаю вам лепшую кандыдатуру...

— А я чакаць буду? Ты ручкі грэй, а я чакаць буду! Сеяць трэба, а ён мне — «Зо-ся Кі-ры-лаў-на!..», «па-ду-ма-ю»... Зімы табе мала на роздум было?..

Канфлікт разгараўся. Ды вось да нас з-за саду падыйшла жанчына. Яна прышла, відаць здалёк: з белым клуначкам, апранутая не па-будзённаму чыста. Падыйшла проста да дзяўчыны, павіталася з запытаннем:

— Гэта ты будзеш наш дэпутат, Зося Новаш?

Дзяўчына неяк міжвольна паправіла аберуч светлыя валасы пад квяцістай хусцінай і ўраз, здаецца, паспакайнела.

— А што ў вас, цётка?

— Што ў мяне? Крыўда. На вось, зірні, пачытай.

Мазолістыя, па-дзявочаму малыя рукі члена ўрада разгарнулі лісток паперы — у клетачку, з вучнёўскага сшытка.

— Дзеці малыя, мужык пад Берлінам застаўся, а ён, людцы мае, цягне, — тлумачыла жанчына змест паперкі. — Гэта наш старшыня... Праўленне вырашыла хату мне паставіць новую, а ён усё цягне...

— Добра, цётка, — сказала Зося-дэпутат, кладучы ў кішэню шаравараў зноў складзеную паперку ў клетачку. — Да вас будзе кіламетраў дваццаць: я там летась арала. Вы скажыце яму, старшыні, што я ў нядзелю прыеду. Я яму пацягну. І хто з іх, скажыце, у каго навучыўся цягнуць?

Яна глядзела на свайго старшыню з нейкім следам усмешкі на вуснах... Ды ўжо строга, сурова: зноў Зося-трактарыстка. Вось-вось спытаецца: «Ну?»

Старшыня выняў, нарэшце, рукі з кішэняў ватных штаноў.

— Я знайшоў чалавека, Зося Кірылаўна. Праз гадзінку якую прыдзе...

— Дзякую вам, таварыш старшыня, — галавой пакланілася Зося. — Я вось тут пастаю, пачакаю. Вы толькі добра там падумайце: няма куды спяшацца... — Дзяўчына павярнулася да калгасніка, што стаяў побач з ёй, і папрасіла: — Дзядзечка, можа, паедзеш са мной? Трэба-ж усё-такі па-гаспадарску!..

— Я-та конюх у калгасе, — адказаў мужчына, — але давай паедзем. — Ён нават кепку

сваю папраўку, тузануўшы яе за доўгі казырок.— А ты, таварыш старшыня, замену мне шлі, ды хутчэй: мне да свае работы трэба.

— Зося Кірылаўна, можна вас на хвіліну?

Гэта спыталіся мы. Калі-ж назвалі дзяўчыне маладое імя часопіса, які нас паслаў да яе, Зося прыязна ўсміхнулася.

— Валодзька,— сказала яна трактарысту ў вайсковай шапцы,— ты яшчэ разы са два абыйдзі за мяне. Мы дагаворымся з таварышамі хутка... Ну, хадзем!

...У чыстай прасторнай хаце з вазонамі на светлых вокнах мы сядзім ля стала, а Зося стаіць перад вялікім насценным люстэркам. Каб усё было лепш і хутчэй, дзяўчына і расказвае аб сабе, і прыводзіць у большы парадак косы і квяцістую хусцінку, якія павінны хутка апынуцца ў аб'ектыве нашага апарата.

— Валодзька — гэта мой муж,— гаворыць яна.— Усю ноч араў, а тут ізноў... Мы з ім працуем на змену. Ужо два гады. А хлопчык наш, Коля, з бабуляй недзе ў Малінаўшчыне. Маленькі яшчэ мой трактарыст, і годзіка няма...

Малінаўшчына — сядзіба МТС — былы маёнтак пана Свінтарэцкага, дзе нарадзілася Зося, адна з чатырох дзяцей спрадвечнага парабка Кірылы Новаша. Пан быў багаты: чатыры маёнткі і камяніца ў Вільні, а парабак Кірыла жыў у цёмнай хаціне, атрымліваў ад пана жабрацкую «ардынарыю» — пудоў дзесятак хлеба на год, за што працаваў і сам, і жонка, і дзеці.

Даўно мінула гэтае ліхалецце. Зосі дваццаць пяць год, а яна сядзіць за трактарным рулём ужо дзевятую вясну. Адна з першых дзяўчат-трактарыстак, якія адразу пасля перамогі над ворагам выйшлі на маладыя калгасныя палі былой пакутніцы — Заходняй Беларусі. Гэта яна, дачка Кірылы-парабка, у верасні 1950 года выступіла на старонках маладзёжных газет з камсамольскім заклікам: «Дзяўчаты, на трактар!» На гэты заклік адказалі камсамолкі Брэсцкай, Полацкай, Гродзенскай і іншых абласцей,— пайшлі на курсы трактарыстак, у школы механізатараў, каб набыць, як пісала Зося, «харошую, высокародную прафесію».

— Пазалетась,— расказвае яна, зноў прысеўшы да белага, пад кужэльным абрусам, стала,— у пяцьдзесят першым годзе, я спаборнічала з Ядвігай Рубановіч з Астравецкай МТС. Ядзя — таксама парабкава дачка. І яна сюды прыязджала, і я ездзіла да яе, ажно пад самую Нарач.

— Ну і як?

— Што-ж як,— усміхнулася Зося.— Перакрыла я яе толькі на дваццаць два гектары. Тысячу пяцьсот гектараў узяла. Ну, а летась мне... як вам сказаць... не пашанцавала: у дэкрэтыўным была, потым з Колікам...

Зося ўсміхаецца сваім думкам.

— Вы скажаце, што я сярдзітая. Прыходзіцца, таварышы, і горш яшчэ крычаць. Ну, што вы зробіце з такім старшынёй! Мы з Валодзем самі сюды папрасіліся, у гэты адсталы калгас, а ён — самі бачылі — і спіць, здаецца, з рукамі ў кішэнях... Ды нічога, мы яго разварушым.

За гэта можна быць цалкам спакойным. Зося Новаш недарма атрымала нядаўна партыйны білет. Недарма яна член абласнога камітэта камсамола, пасланец навакольных калгасаў у Вярхоўны Савет Беларускай рэспублікі. Людзі ведалі добра, каго пасылалі!

...Мы зноў у полі, дзе ўсё пашыраецца мора свежай, духмянай раллі, а над ёю — пагоднае неба новай мірнай, шчаслівай вясны.

Валодзя саступіў сваёй Зосі месца за рулём.

— Трэці сезон працуе без рамонту! — горда паказвае Зося на трактар.— А там пагляддзім. Ну, таварышы мілыя, будзем, можа, канчаць?.. Мне трэба браць разгон.

Наш фотаапарат спяшаецца: многа зямлі ўздымаюць гэтыя плугі за кожную хвіліну дарагога часу.

І вось, нарэшце, наша справа скончана. Зося ўключае матор, дзядзька-прычэпшчык пагаспадарску кладзе рукі на руль прычэпа... У дужым, радасным рокаце трактара губляецца, знікае ўсё — і песні жаўранкаў, і развітальны голас Зосі-трактарысткі. Відаць толькі простая, шчырая ўсмешка яе і ўзмах рукі: бывайце здаровы!

Бывай, Зося! У чэрвені, калі зазеленеюць, зацвітуць палі, з табой спаткаюцца тысячы новых сяброў і сяброўак. Маладыя рабочыя, будаўнікі, калгаснікі, студэнты нашай сонечнай рэспублікі разгорнуць новы нумар свайго часопіса і на старонках яго знойдуць сціплы расказ пра цябе — харошага таварыша ў вялікай, усенароднай справе мірнага будаўніцтва. І не адзін з іх спытае: дзе яна, што яна робіць цяпер, з кім ваюе нястомная камсамолка Зося?.. Дзе спявае матор яе трактара, як каласяцца пасевы, што ўзараны, засеяны членам урада?..

І многім стане хораша, цёпла на сэрцы ад думкі, што недзе паблізу ад горада Маладзечна ў гэтую ноч на лагодных узгорках уздымае папары нястомны гусенічны рабацяга, і праз бяссонны грукат яго чуваць радасная песня былой парабчанкі!..

А потым узыйдзе над полем калгасным ласкавае сонца і, як толькі ў старой Малінаўшчыне падсохне трохі росная трава,— па цёплай зелені пойдуць босыя ножкі малога Колі-трактарыста... Першыя крокі. На радасць дзеду і бабцы, на радасць матулі, якая недзе закончыла змену, перадала трактар свайму харошаму другу Валодзі, і вось ідзе па сцежцы ў засеяным ёю калоссі і ўсё ўсміхаецца — шчасцю свайму, нашай цудоўнай маладосці.



Зося Новаш перадае змену.



Піонеры, вучні 2-й і 33-й школ горада Мінска ў гасцях у пісьменніка Янкі Маўра.

Фота Ф. Чэховіча.

# ЛЮБІМЫ ДЗІЦЯЧЫ ПІСЬМЕННІК

11 мая гэтага года грамадскасць рэспублікі адзначыла сямідзесяцігоддзе з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра.

Чытачы, асабліва дзеці і моладзь, добра ведаюць творы Янкі Маўра. Ніколі не залежваюцца на паліцах бібліятэк «Палескія рабінзоны», «Сын вады», «Амок», «У краіне райскай птушкі», «ТВТ» і іншыя аповесці і апавяданні пісьменніка. Творы Янкі Маўра пашыраюць кругазор чытача, знаёмяць яго з прыродай, жыццём і побытам народаў далёкіх краін, выхоўваюць у яго любоў да нашай Радзімы — самай прыгожай і самай багатай у свеце.

Янка Маўр з'яўляецца заснавальнікам навукова-прыгодніцкага жанра ў беларускай савецкай літаратуры. Народны паэт Беларусі Янка Купала высока цаніў пісьменніцкі талент Я. Маўра і неаднойчы гаварыў, што ён — «першы чытач кніг Маўра».

Лепшыя творы пісьменніка дапамаглі і дапамагаюць Комуністычнай партыі, савецкаму народу выхоўваць маладое пакаленне ў духу савецкага патрыятызма, бязмежнай адданасці сацыялістычнай Радзіме.

Пры непасрэдным удзеле Я. Маўра і пад яго рэдакцыяй створана кніга беларускіх дзяцей пра Айчынную вайну — «Ніколі не забудзем», якая перакладзена на многія мовы народаў СССР.

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Янка Маўр узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Максім ЛУЖАНІН

# Мора сініх ільноў

Мал. Ю. Пучынскага.



Шлюць мяне ад калгаса
У далёкі раён,
Дзе ўжо з даўняга часу
Вельмі-ж славіцца лён.

Пра арцель «На уздыме»
Нарасказвалі шмат.
Прыязджаю туды я —
Брыгадзіра няма.

Да малых я звярнуўся:
— Дзе жыве брыгадзір!
— Там над хатаю бусел,
Трохі далей прайдзі.

Пахадзіў я багата,
А знайсці — не знайшоў:
Па-над кожнаю хатай
Клекча пара буслоў.

Я пытаўся і ў сталых:
— Дзе-ж ён ёсць, брыгадзір!
— За калгасам — прагалак,
На ільнах паглядзі.

Паглядзець было міла,
А знайсці — не знайшоў:
Мне шляхі заступіла
Мора сініх ільноў.

Вось дзяўчат я страчаю:
— Дзе, — кажу, — брыгадзір!
— Калі хлопец з вачамі,
Паглядзі ды знайдзі!

Не пазнаць мне дзяўчыны!
Так падобныя ўсе,
Як вясною галіны
У лістах і красе.

Самы лепшы ў брыгадзе
Ці-ж не я працаўнік!
Самы першы ў бяседзе
Ці-ж не я жартаўнік!

— Ах, якія дзяўчаты, —
Гавару я знарок, —
А лянок слабаваты,
Рэдкаваты лянок.

І румянцам адразу
Залілася адна,
Не стрывала абразы...
Я падумаў:
«Яна!»



Падступае другая
І гаворыць:
— Мана!
— Я падумаў:
«Не тая!
Гэта, мусіць, яна».

Тут дзяўчына з далёкай
Падыйшла паласы —
Весялейшага вока,
Залацейшай касы.

Не прышлося мне думаць,
Здагадаўся і так.
Да дзявочага тлуму
Прамаўляю аднак:

— Я да вас павучыцца,
Як і што да чаго.
А ці многа кастрыцы
Родзіць гэты загон!

— За навуку мы сышчам,
Пэўна-ж, добры калгас,
Што расце барадзішча,
Як іржышча, на вас.

Адказала, адсекла
І размове канец,
Хоць вазьмі ты ды ў пекла
Праваліся хлапец.

Угадай — ці ласкава,
Ці каб горш падсаліць.
Дабаўляе: «Па справах
Лепш дадому-б зайшлі».



А дзяўчаты гарэзна
Узяліся ў бакі:
— Не забудзь кустарэзам
Зняць са шчок хмызнякі

Эх, сапсуў ты ўсе гульні,
Чортаў волас руды!
Паспяшайся ў цырульню,
Чалавек малады.

Доўга майстар калгасны
Мне віхор муштраваў,
То ўставаў на абцасы,
То крыху прысядаў.

Потым брытваю выскраб,
Пагаліў дзірваны
І нарэшце папырскаў
Самым лепшым — трайным.

Падступаецца вечар
Да высокіх прысад,
Набліжаецца стрэча:
— Трохі боязна, брат!

Каб з цябе не накпілі,
Падрыхтуйся як след.
Але ўсё-ж, як на крыллях,
Вёў я веласіпед.



Не заглядваю ў сёлы,
Абмінаю гаі.
Вось і дом той вясёлы
На узгорку стаіць.

Пахне свежаю грэчкай,
Дождж абмыў каласы,
А на полі за рэчкай,
Галасы, галасы!

За фіранкаю белай
Нават цень не мільгне.
Ды няўжо-ж не хацела
Дачакацца мяне!

Ды чаго-ж гэтак светла
Стала раптам наўкол.
Нібы выдзьмула ветрам
Змрок, апаўшы на дол!

Адчыняе мне сенцы,
Мы заходзім у дом,
Разглядаем на сценцы
Дзесяць грамат за шклом.

— Ты да нас па навуку!
Што хацеў-бы пачуць!
Ды пра лён я ні гуку,
Я пра лён той маўчу.

І прызнаюся шчыра,
Як між добрых сяброў,
Я знайшоў брыгадзіра
І сяброўку знайшоў.



# НАС ВЫХАВА

## ДРУЖБА НАЗАЎСЁДЫ!

Педагагічны інстытут, літаратурны факультэт клікалі мяне са школьнай парты. Я люблю вялікую рускую літаратуру, беларускую літаратуру, асабліва захапляюся выдатнымі кнігамі сучаснай савецкай літаратуры.

Першага верасня 1949 года я прышла ў новае, прасторнае памяшканне Мінскага педагагічнага інстытута. Тут сустрэла новых сяброў. Яны прыехалі ў Мінск з розных абласцей Беларусі, з Сібіры, Украіны, з Каўказа.

У першы-ж год я пасябравала з украінкай Жэняй Перавознай. І вось на працягу чатырох год мы дзелімся з ёю ўсімі думкамі, усімі запаветнымі жаданнямі і імкненнямі. Мы разам з ёю рыхтаваліся да экзаменацыйных сесій, чыталі творы Пушкіна і Талстога, Чэхава і Некрасава, Шолахава і Фадзеева, Купалы і Коласа. Мы вучыліся любві да сваёй Радзімы, адданаму служэнню свайму народу ў герояў многіх твораў лепшых савецкіх пісьменнікаў. Мы разам хадзілі ў тэатры і кіно, удзельнічалі ў мастацкай самадзейнасці. І калі настане часіна развітання, мы яшчэ раз паўторым:

— Дружба назаўсёды!

Хутка мы паедзем у розныя куткі нашай вялікай Радзімы. Мы панясем у масы тыя вялікія ідэі, якія пачэрпнулі ў светлых аудыторыях інстытута. Мы павінны жыць і працаваць так, як вучыў нас бясконца дарагі нам Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. З намі заўсёды будуць яго геніяльныя думкі і справы. Светлы вобраз правадыра з'яўляецца для нас прыкладам беззаветнага служэння свайму народу, найвялікшай адданасці справе комунізма.

Заканчваючы педагагічны інстытут, хочацца сказаць аб тых выключных клопатах нашай Комуністычнай партыі і савецкай улады, якімі акружана студэнцкая моладзь у нашай краіне. І мы шчаслівы, што ў нашай працы нас павядзе наперад наша любімая слаўная Комуністычная партыя.

**Н. ЯЦКО,**
**студэнтка Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага.**

## НА ВАРЦЕ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ

Радзіма! Партыя! Гэтыя словы бязмерна блізкія і дарагія кожнаму савецкаму чалавеку. Вялікія геніі чалавецтва Ленін і Сталін стварылі нашу дзяржаву, далі нам шчасце свабоднага жыцця. Нам, моладзі, прадастаўлена магчымасць вучыцца, авалодваць ведамі. Хіба маглі аб гэтым марыць нашы бацькі, якія жылі ў стары час?!

Мае бацькі да Кастрычніка былі непісьменныя. Маці ведала толькі некалькі літар, а бацька і гэтага не ведаў. Яны часта расказвалі мне пра сваё мінулае жыццё, пра тое, колькі поту даводзілася праліваць, каб мець у хаце кавалак хлеба.

Я вельмі любіў хадзіць у школу, прагна цягнуўся да ведаў.

Але пачалася вайна...

Знаходзячыся на франтах Айчыннай вайны, я бачыў выдатных савецкіх урачоў, якія, не шкадуючы сваіх сіл, выратоўвалі жыццё нашых салдат і афіцэраў. Тады і нарадзілася ў мяне думка — стаць урачом, ахоўваць здароўе савецкіх людзей.

Ад Масквы да Усходняй Прусіі—такі мой баявы шлях. Радзіма высока ацаніла мае заслугі, узнагародзіўшы мяне чатырма ордэнамі і медалямі.

Пасля дэмабілізацыі я скончыў сярэднюю школу і ў 1947 годзе паступіў у Мінскі медінстытут. Надышоў час здзяйснення мары. Упартая праца, жаданне як мага лепш авалодаць ведамі прынеслі поспехі ў вучобе. На трэцім курсе мне была прысуджана сталінская стыпендыя.

Я перакананы, што ўрачу недастаткова адных толькі ведаў, трэба яшчэ любоў да сваёй спецыяльнасці. Добрым урачом можна стаць тады, калі лічыш хворага самым блізкім сваім таварышам, сябрам.

Такім урачом я і імкнуся стаць. Атрыманыя ў інстытуце тэарэтычныя і практычныя веды, выхаваную ў калектыве любоў да чалавека я панясу туды, куды пашле мяне Радзіма, партыя.

**Н. ВАЙЦЕНАК,**
**студэнт Мінскага медыцынскага інстытута.**



## Надзея

**Насыр ас Салам — так маленькага сына**
**Назвала суданскага краю жанчына.**

**Звычайныя, самыя простыя словы —**
**Якім-жа прыгожым напоўнены сэнсам!**
**Любая матуля, не знаючы мовы,**
**Успрыйме, адчуе іх матчыным сэрцам.**

**Імя дарагое на мове арабскай**
**Матулею дадзена сыну з надзеяй,**
**Што ён не памірыцца з доляю рабскай**
**У лапах заморскіх бандытаў-зладзеяў.**

**Ён будзе змагацца за шчасце народа,**
**За светлае заўтра пакутнага краю,**
**Пакуль непагаснае сонца свабоды**
**Над роднай зямлёю яго не заззяе.**

**Суданскую маці віншую я шчыра**
**З малым яе сынам Прыхільнікам Міру! *)**

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.**

*) Насыр ас Салам (араб.) — Прыхільнік Міру.

## ДЛЯ РОДНАЙ

Здецца, зусім нядаўна гэта было: я разам з другімі юнакамі і дзяўчатамі прышоў у Беларускі політэхнічны інстытут імя І. В. Сталіна. Інстытут быў аплецены сеткай будаўнічых рыштаванняў. Мы вучыліся, а пасля заняткаў прымалі ўдзел у аднаўленні роднага інстытута.

Заняткі ішлі тады толькі ў адным вучэбным корпусе, у аудыторыях, дзе не паспела яшчэ высахнуць атынкоўка. Не было абсталяваных лабараторый — яны знаходзіліся ў студэнцкім інтэрнаце.

Прайшло толькі пяць год — і не пазнаць зараз нашага інстытута. Кожны, хто едзе або ідзе па праспекту імя І. В. Сталіна, міжвольна захапляецца яго велічным будынкам.

Прасторныя і светлыя аудыторыі, цудоўныя лабараторыі, абсталяваныя выдатнай айчыннай апаратурай і прыладамі, вучэбна-вытворчыя майстэрні і гаражы з навейшым абсталяваннем і машынамі, вялікая бібліятэка, клуб, спартыўныя залы, — усё гэта створана для таго, каб моладзь паспяхова магла авалодваць ведамі.

Адчуваючы штодзённыя клопаты партыі і ўрада, мы імкнемся адказваць на іх выдатнай вучобай.

Сем факультэтаў нашага інстытута рыхтуюць інжынераў па пятнаццаці спецыяльнасцях для самых рознастайных галін народнай гаспадаркі. Выпускнікоў інстытута можна сустрэць на бу-

**Выпускнікі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя В. І. Леніна** (злева направа): **Х. Александровіч, Г. Васільева, З. Іванова.**

# ЛА РАДЗІМА

## Мара і песня

Зямляк, дарагі таварыш
З Палесся, з будоўлі новае,
Я знаю, аб чым ты марыш
У гэтыя дні вясновыя.

Я чую, аб чым складаеш
Ты песню сваю за працаю,
Калі палац уздымаеш
Ці новую гідрастанцыю.

Я знаю, адкуль на подзвіг
Ты сілу бярэш вялікую —
Мы шчасце сваё узводзіць
Сягоння Масквой закліканы.

І ў марах з табою крочу
Заўжды пад сцягоў усплёскі я
Праспектам да Краснай плошчы,
На зоры гляджу крэмлёўскія.

І думку, што ў даль імкнецца,
Кладзем мы у справу вечную,
У песню, што разам з сэрцам
Любімай Маскве прысвечана.

**Ул. НЯДЗВЕДСКІ,**
**студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.**

## КРАІНЫ

доўлях Волгі, на прамысловых прадпрыемствах Беларусі і Урала, Украіны і Далёкага Усходу.

Выбар спецыяльнасці інжынера-гідратэхніка не быў для мяне выпадковасцю. Я чуў і чытаў многа цікавага аб ёй. Вучоба ў інстытуце, вытворчая практыка на буйных гідратэхнічных збудаваннях спрыялі развіццю і ўмацаванню любві, што некалі нарадзілася ў мяне да гэтай спецыяльнасці. Сапраўды, яна цікавая сваёй шырынёй і рознабаковасцю. Работа гідратэхніка патрабуе добрага ведання прыродазнаўчых навук, шматлікіх інжынерных дысцыплін. У нашым інстытуце створаны ўсе ўмовы для набыцця патрэбных ведаў.

У час вучобы я прымаў актыўны ўдзел у рабоце студэнцкага навуковага таварыства. На пятай навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў красавіку гэтага года, выступаў з двума дакладамі. Зараз працую над дыпломным праектам, які закранае адно з пытанняў асушэння балот рэспублікі. Гэта тэма знаходзіць сваё адлюстраванне і ў дыпломных праектах іншых нашых студэнтаў. У наша распараджэнне прадастаўлены багатыя матэрыялы, сабраныя экспедыцыямі.

Справе асушэння адвечных балот, што прыносілі людзям адны бядоты, кожны з нас гатовы аддаць усе свае веды, усе сілы.

**Э. АЎЧЫННІКАЎ,**
**студэнт Беларускага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна.**

## АКРУЖАНЫЯ КЛОПАТАМІ РАДЗІМЫ

Самая шчаслівая моладзь на зямлі — моладзь совецкай краіны. Мы акружаны выключнымі клопатамі Комуністычнай партыі, совецкага ўрада, усяго совецкага народа. Кожнаму юнаку і кожнай дзяўчыне ў нашай краіне створаны ўсе магчымасці ажыццявіць сваю любую мару, праявіць і развіваць свае здольнасці і таленты.

Я хачу расказаць пра сябе і сваіх таварышаў, будучых спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

Пяць гадоў назад мы паступілі вучыцца ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Гэта адна са старэйшых сельскагаспадарчых вышэйшых навучальных устаноў, яна існуе звыш ста год. У акадэміі ёсць восем факультэтаў. Тут створаны ўмовы для падрыхтоўкі спецыялістаў сельскай гаспадаркі. На кафедрах працуюць высокакваліфікаваныя выкладчыкі, у распараджэнне студэнтаў прадастаўлены ўсе неабходныя наглядныя дапаможнікі.

Я заканчваю інжынерна-землеўпарадкаваўчы факультэт.

Пачынаючы з другога курса, мы кожны год праходзілі летнюю вытворчую практыку. У мінулым годзе студэнты нашага факультэта за час вытворчай практыкі правялі ўнутрыгаспадарчае землеўпарадкаванне ў 41 калгасе Мінскай вобласці. Зараз на аснове матэрыялаў, сабраных у час практыкі, мы працуем над дыпломнымі праектамі на рознастайныя тэмы па землеўпарадкаванню, планіроўцы, інвентарызацыі зямлі.

Хутка мы атрымаем дыпломы інжынераў-землеўпарадкавальнікаў. Разам з іншымі спецыялістамі сельскай гаспадаркі мы будзем працаваць на палях нашай краіны, пераўтвараючы малаўрадлівыя землі ў квітнеючыя палі і сады.

**Н. АГАРОДНІКАВА,**
**студэнтка Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.**

## У АДЗІНАЙ СЯМ'І

Я нарадзіўся ў былой Заходняй Беларусі. Мне вельмі і вельмі хацелася вучыцца. Але я нават марыць не мог аб вышэйшай адукацыі. У сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы ў заняволенай Заходняй Беларусі маглі трапляць толькі сыны паноў і капіталістаў.

Мая мара пачала ажыццяўляцца пасля вызвалення заходніх абласцей ад белапольскай акупацыі. Совецкая ўлада шырока адчыніла перад дзецьмі рабочых і сялян дзверы ўсіх навучальных устаноў. Цяжка было паверыць, што просты чалавек, які некалі дбаў хоць-бы аб пачатковай адукацыі, цяпер можа атрымаць вышэйшую. Я сёлета заканчваю Беларускі дзяржаўны універсітэт імя В. І. Леніна, мой брат заканчвае Беларускі політэхнічны інстытут імя І. В. Сталіна.

Пасля дэмабілізацыі з радоў Совецкай Арміі я паступіў ва універсітэт на хімічны факультэт. Совецкая дзяржава прадаставіла для нас усе магчымасці, каб мы паспяхова авалодалі такой складанай галіной навукі, як хімія. Высокакваліфікаваныя спецыялісты, заслужаныя дзеячы навукі, акадэмікі і члены-карэспандэнты Акадэміі навук БССР з вялікім веданнем справы чыталі нам лекцыі. У наша распараджэнне прадастаўлены выдатна абсталяваныя лабараторыі.

Па нацыянальнасці я — татарын. У кругу студэнтаў — рускіх, беларусаў, украінцаў — я адчуваю сябе, як у роднай сям'і. Совецкая моладзь, выхаваная партыяй і комсамолам, расце згуртаванай, дружнай. Для яе, як і для ўсяго совецкага народа, не існуе нацыянальнага адрознення, нацыянальнай варожасці. Бясконца адданая сваёй соцыялістычнай Радзіме, совецкая моладзь з'еднана адной светлай марай — пабудаваць комунізм у нашай краіне.

Заканчваючы універсітэт, хочацца сказаць ад усёй душы: дзякуй табе, родная Ўлада, за тваю цеплыню і клопаты аб нас, совецкай моладзі. Мы адкажам на твае клопаты самаадданай працай на любым участку комуністычнага будаўніцтва.

**Х. АЛЕКСАНДРОВІЧ,**
**студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.**



Група выпускнікоў Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (злева направа): Л. Бульёнаў, У. Мяшкоў, Н. Яцко, С. Шаўцоў.

Ул. НЯФЁД

# ПАМЫЛКА ВЕРЫ ІГНАТАЎНЫ

**Аднаактавая п'еса па матэрыялах 8-га раздзела «Кнігі для бацькоў» А. Макарэнкі**

**Дзеючыя асобы:**

Вера Ігнатаўна — 38 год.
Тамара — яе дачка, 18 год.
Андрэй Клімавіч — 57 год.

Пакой у кватэры Веры Ігнатаўны. Двое дзвярэй — адны ўваходныя, другія — у спальню. Паліца з кнігамі. Пасярэдзіне пакоя — стол, на якім непрыбраныя талеркі, лыжкі, хлеб. Збоку — пісьмовы стол; на ім скруткі чарцяжоў, лінейкі, цыркуль, алоўкі, на першым плане — ружовыя туфлі.

За пісьмовым сталом сядзіць Тамара. Яна — у ружовай шаўковай сукенцы, валасы завітыя. Абапёршыся локцямі на чарцёж, яна паклала галаву на рукі і глядзіць некуды ўдалечыню... Узяла са стала туфлі, сумна паглядзела на іх і адвярнулася. Адчыняюцца дзверы, і ў пакой уваходзіць Вера Ігнатаўна. Распранае паліто і скідае хустку. Апранута яна вельмі проста: кофта, чорная спадніца, на нагах простыя туфлі. Гэта яшчэ маладжавая, прыгожая жанчына.

Вера Ігнатаўна (паклала сумку на падваконнік, паставіла на кніжную паліцу некалькі кніг, якія прынесла з сабой). Паўлік абедаў?

Тамара (не паварочваючы галавы, тонам пакрыўджанай). Абедаў.

Вера Ігнатаўна. А куды ён пайшоў?

Тамара. Не ведаю.

Вера Ігнатаўна. А ў нас у бібліятэцы сёння дыспут быў. Вельмі цікавы. Аўтар выступаў. (Агледзела пакой, узяла шчотку і пачала падмятаць падлогу. Тамара перасела на іншае месца.)

Тамара. Мама, а як-жа з туфлямі?

Вера Ігнатаўна (падмятаючы пакой, спакойна). Тамарачка, а можа як абыйдзешся?

Тамара (устала, са злосцю). Мама! Што ты гаворыш!?. Нават злосць бярэ. Сукенка карычневая, а туфлі ружовыя...

Вера Ігнатаўна (спакойна). Ну, што-ж... купім другія. Вось атрымаю зарплату...

Тамара (голасам пакутніцы). Надакучыла... Колькі ўжо гэтых зарплат мінула!..

Вера Ігнатаўна (мякка). Пацярпі крышачку. А пакуль пахадзі так. Сукенка ў цябе светлакарычневая, а туфлі ружовыя. (Бярэ іх, разглядае.) Я думаю, пры такіх туфлях карычневую сукенку насіць можна.

Тамара. У цябе няма густу.

Вера Ігнатаўна. Ну, добра, супакойся. Я-ж сказала — купім. Ты лепш скажы мне, як твая архітэктура?

Тамара (маўчыць, потым гаворыць хутка, амаль крычыць). Ты хочаш, каб я хадзіла ў ружовых туфлях і ў карычневай сукенцы! Ты хочаш, каб я смяшыла людзей! Так? Ты гэтага хочаш? Ну, так і скажы!

Вера Ігнатаўна. Тамарачка, у цябе-ж ёсць і другія сукенкі. І ёсць чорныя туфелькі. Яны, праўда, трошкі паношаныя, але цэлыя. І няўжо ўсе вашы студэнткі так ужо стараюцца, каб туфлі ў іх абавязкова былі аднаго колеру з сукенкай?

Тамара. Чорныя туфлі! (Кінулася ў спальню і вярнулася адтуль з туфлямі ў руках. Абурана падносіць іх да самага твару маці.) У гэтым хадзіць? Гэта, па-твойму, абутак? А гэта, па-твойму, можа, не латка?

Вера Ігнатаўна. Праўда, туфлі не новыя. Я згодна з табой. І таму пастараемся купіць. Ты-ж бачыш — я на сябе ні капейкі лішняй не трачу. Усё табе...

Тамара. А што-ж, па-твойму, я павінна апранацца так, як ты? Ты сваё ўжо аджыла, а я маладая, я жыць хачу!

Вера Ігнатаўна. Каб табе не так крыўдна было, успомні — я-ж таксама была маладая. І мне куды цяжэй было, чым табе...

Тамара. Ну, пачала ўжо! Адкуль я ведаю, што там у цябе было... Бацькі павінны жыць для дзяцей. Ты сама мне гэта заўсёды казала. Ці-ж не праўда?

Вера Ігнатаўна. Казала.

Тамара. Ну вось! А калі я буду старая, дык я нічога не буду шкадаваць сваёй дачцы! (Заплакала.)

Вера Ігнатаўна. Дык і я-ж табе нічога не шкадую. Ты гэта ведаеш. Ну, перастань, перастань плакаць. (Абдымае яе.) Вочы пачырванеюць, а гэта непрыгожа... Я зраблю ўсё, што ў маіх сілах...

Тамара (скрозь слёзы). Ты так толькі гаворыш, а сама хочаш выставіць мяне на смех. (Устае, падыходзіць да стала, хоча мыць пасуду.)

Вера Ігнатаўна. Што ты, што ты! Я сама памыю. Ад гэтага твае рукі патрэскаюцца.

Тамара (ахвотна згаджаючыся). Ну, як хочаш. (Выходзіць у спальню. Вера Ігнатаўна мые пасуду. Стук у дзверы. Уваходзіць Андрэй Клімавіч. Ён з партфелем.)

Андрэй Клімавіч. Дазвольце, Вера Ігнатаўна, зайсці, справа ёсць маленькая.

Вера Ігнатаўна. Калі ласка, Андрэй Клімавіч, заходзьце.

Андрэй Клімавіч. А вы ўсё гаспадарыце?

Вера Ігнатаўна. Ды якая там гаспадарка! Калі ласка, сядайце!

Мал. М. Бельскага.



Андрэй Клімавіч (сеў ля стала, што пасярод пакоя). Вера Ігнатаўна, справа ў мяне... такая, ведаеце, сакрэтная... (Іранічна паглядзеў на горку нямытых талерак.) Што гэта вы — і паабедаць паспелі?!

Вера Ігнатаўна. Не, гэта — дзеці.

Андрэй Клімавіч. Дзеці? Ага!.. А я да вас, можна сказаць, ад заўкома. Трэба адну справу высветліць.

Вера Ігнатаўна. Вы пра сённешні дыспут?

Андрэй Клімавіч. Не, гэта датычыцца толькі вас. А за дыспут вам, Вера Ігнатаўна, вялікае дзякуй ад усяго нашага завода. Добра арганізавалі.

Вера Ігнатаўна. Ды што вы! Хіба адна я? Гэта-ж увесь калектыў нашай бібліятэкі.

Андрэй Клімавіч. Скромнасць, Вера Ігнатаўна, скромнасць... Мы-ж вас ведаем. Хацеў і я на дыспуце выступіць, ды моладзь апярэдзіла. А кнігу таварыша пісьменніка я прачытаў, так сказаць, з небяспекай для жыцця: дзве ночы не спаў. Да чаго-ж там народ паказаны харошы! Баявы, малады, вясёлы! Усё, як у нас, усё, як у жыцці.

Вера Ігнатаўна. Так і відаць, што вы вельмі любіце кнігі.

Андрэй Клімавіч. Люблю, Вера Ігнатаўна, вельмі люблю.

Вера Ігнатаўна. Іх нельга не любіць. Кожная кніга мае сваё аблічча, свой характар. Вось, напрыклад, «Як гартавалася сталь». Гэта кніга святая... пры ёй нават сорамна дрэннае слова сказаць. А «Разгром» чамусьці нагадвае мне славутага доктара. Прымае ён сваіх пацыентаў, клапоціцца аб іх, стараецца ім дапамагчы. І дапамагае. Многім дапамагае... (Задумалася. Пауза.)

Андрэй Клімавіч. Вера Ігнатаўна, а я-ж да вас па справе. Вырашылі мы на заводзе сяго-таго прэміраваць за культработу. А вас — у першую чаргу. Хацелі грашыма прэміраваць, ды я запратэставаў. Тут трэба прыдумаць нейкую іншую рэч.

Вера Ігнатаўна. Ой, ці варта мяне прэміраваць?

Андрэй Клімавіч. Гэта ўжо вырашана. Ну, дык якую-ж рэч?

Вера Ігнатаўна (падумаўшы). Рэч? Хто яго ведае... А! Туфлі патрэбны, Андрэй Клімавіч...

Андрэй Клімавіч (паглядзеў на туфлі Веры Ігнатаўны). Туфлі? Та-ак, гэта можна...

Вера Ігнатаўна. Толькі... толькі карычневыя...

Андрэй Клімавіч. Карычневыя? (Сумна ўсміхнуўся.) Можна і карычневыя. Ды гэта ўжо такая справа, што без прымеркі нельга. Пойдзем з вамі ў магазін і прымераем. І фасон належны выберам...

Вера Ігнатаўна. Навошта-ж вам турбавацца, Андрэй Клімавіч. Я ніколі не мераю. Проста бяру патрэбны нумар і ўсё...

Андрэй Клімавіч. А які нумар вы носіце?..

Вера Ігнатаўна. Які нумар? (Апусціла вочы.) Трыццаць чацверты.

Андрэй Клімавіч. Трыццаць чацверты? А не цесныя будуць, Вера Ігнатаўна?

(Вера Ігнатаўна сумелася, замітусілася, узяла ручнік і пачала выціраць пасуду.)

Андрэй Клімавіч (весела). Гэты нумар не пройдзе, Вера Ігнатаўна.

Вера Ігнатаўна (нібыта не разумее сэнсу яго слоў, стараецца гаварыць спакойна). Які нумар не пройдзе?

Андрэй Клімавіч (засмяяўся). Трыццаць чацверты нумар не пройдзе. Паненка ваша тут нічога не атрымае, калі ўжо я ўзяўся за гэтую справу...

Вера Ігнатаўна. Чаму вы так гаворыце?

Андрэй Клімавіч. Я і ў заўкоме так сказаў: прэміруем Веру Ігнатаўну, а не яе Тамару-модніцу.

Вера Ігнатаўна (здзіўлена). Гэта мая Тамара — модніца? Якая-ж яна модніца? Маладая дзяўчына... А кожнай маладой хочацца апрануцца найпрыгажэй. А наконт прэміі... Калі ўжо вы рашылі прэміраваць мяне, то я магу распарадзіцца гэтай прэміяй, як захачу.

Андрэй Клімавіч. Значыцца, дачушцы хочаце аддаць?

Вера Ігнатаўна. А чаму-ж не? Дарагі Андрэй Клімавіч! Я ў маладосці цяжка жыла. Бывала, як хацелася мець прыгожую сукенку, туфлі!.. А не магла... І я не хачу, каб мая дзяўчынка адчувала недахоп у чым-небудзь. Маладосць бывае адзін раз у жыцці.

Андрэй Клімавіч. А вы ўжо ў бабулькі запісаліся?

Вера Ігнатаўна. Я сваё аджыла. А ў яе ўсё жыццё наперадзе.

Андрэй Клімавіч. Сорам мне слухаць вас, Вера Ігнатаўна. Паверыць не магу, што гэта гаворыць наш бібліятэкар!.. Вера Ігнатаўна, давайце я вам скажу праўду...

Вера Ігнатаўна. Якую-ж гэта праўду?

Андрэй Клімавіч. Вось паслухайце. Толькі пакіньце на хвіліну гэтыя талеркі. (Узяў у Веры Ігнатаўны выцертую талерку і асцярожна паклаў на горку чыстых. Вера Ігнатаўна паслухмяна села на крэсла.) Праўды не трэба баяцца, Вера Ігнатаўна, і крыўдзіцца за яе не трэба. Справа гэта, безумоўна, ваша, і дачка ваша — гэта ўсё так! Ды вы-ж у нас работнік дарагі, мы вас так паважаем. А вы, напрыклад... як вы апранаецеся? Так сабе. А чаму? Ад беднасці хіба гэта?

Вера Ігнатаўна. Не, на беднасць не магу паскардзіцца.

Андрэй Клімавіч. Вось-жа я і кажу. Муж зарабляе добра, вы — таксама, дачка стыпендыю атрымлівае... І ўсё гэта вы траціце на адну дачку. Вы што, думаеце, лепш ёй

гэтым робіце? Вось талеркі... З якой гэта рацыі вы іх самі мыеце?

Вера Ігнатаўна. Я думаю, Андрэй Клімавіч, што проста злачынствам было-б загружаць Тамару чорнай работай. Яна яшчэ непрацуецца... А ўрэшце, Андрэй Клімавіч, кожны жыве па-свойму. Я так жыву, значыць, мне так падабаецца.

Андрэй Клімавіч. А нам не падабаецца.



Вера Ігнатаўна. Каму гэта нам?

Андрэй Клімавіч. Рабочым. Мы хочам бачыць вас прыгожай, маладой... Адным словам, мы вырашылі прэміраваць вас крэпдэшынам на сукенку. (Дастае з партфеля пакунак.) Вось і купілі. Толькі ці прыдзецца ён вам па густу...

Вера Ігнатаўна. Гэта так нечакана для мяне... Я нават не ведаю, што і сказаць...

Андрэй Клімавіч. А вы не спяшайцеся, падумайце. (Накідвае ёй на плечы прыгожы вішнёвы крэпдэшын.)

Вера Ігнатаўна (падыходзіць да люстэрка). А ведаеце... Я ў такой сукенцы буду выглядаць сапраўды маладзейшай... Нават неяк няёмка... Але як-жа гэта? Пашыю сабе новую сукенку, буду фарсіць, як артыстка якая .. А дачка?..

Андрэй Клімавіч. А ў яе ёсць. Мы ведаем. Інжынершы за ёю не ўгоняцца. Прыдзе ў клуб — куды табе! То ў сіняй, то ў чорнай, то ў паласатай! Ды не ў гэтым справа — няхай сабе ходзіць. Толькі-ж і пра сябе вам забываць не трэба. (Са спальні ўваходзіць Тамара.)

Тамара. Добры вечар!

Андрэй Клімавіч. Добры вечар!

Тамара (падыйшла да маці, разглядае тканіну). Прэмія?..

Андрэй Клімавіч. Прэмія.

Тамара (тонам знаўцы). Вішнёвы крэпдэшын.

Андрэй Клімавіч. Вішнёвы.

Тамара. Гэта вы выбралі? Самі?

Андрэй Клімавіч. Сам.

Тамара. Адзін?

Андрэй Клімавіч. Адзін.

Тамара. Няпраўда. Жонку з сабою вадзілі.

Андрэй Клімавіч (жартам). Навошта мне жонка, калі я сам з малых год у гэтых шаўках, можна сказаць, купаўся...

Тамара. У якіх шаўках?

Андрэй Клімавіч. А вось у гэтых самых крэпдэшынах

Тамара (недаверліва). Вы былі такі... арыстакрат?

Андрэй Клімавіч. А як-жа! Мая маці, бывала, як развесіць гэтыя шаўкі сушыць пасля выварвання ды мыцця...

Тамара. А-а! Пасля выварвання! А хіба шоўк выварваюць?

Андрэй Клімавіч. А хіба не?

Тамара. Не выварваюць.

Андрэй Клімавіч. Тады бяру свае словы назад.

Тамара. Якая любата! Якая прыгажосць! Як гэта з густам выбрана... вішнёвы крэпдэшын!

Андрэй Клімавіч. Так... Дык як-жа, Вера Ігнатаўна?

Вера Ігнатаўна. Ну, што-ж... калі так трэба... Я вам вельмі ўдзячна!

Андрэй Клімавіч. Вось і добра. Ну, бывайце!

Вера Ігнатаўна. Да пабачэння!

(Андрэй Клімавіч выходзіць.)

Вера Ігнатаўна (зноў падыходзіць да люстэрка). Тамарачка, ты паглядзі, як прыгожа. Праўда, я ў гэтай сукенцы буду выглядаць год на дзесяць маладзейшай?

Тамара. Будзеш шыць?

Вера Ігнатаўна (маўчыць).

Тамара. Нябось, як сабе, дык шыеш новую сукенку. Сабе дык усё можна, а мне нельга? Ты-ж вось шыеш сабе?..

Вера Ігнатаўна. Яшчэ не, але, сказаць па праўдзе, надумала.

Тамара. Вось бачыш! Сама ты можаш прыбірацца. А перад кім табе прыбірацца? Перад татам?

Вера Ігнатаўна. Ну, Тамарачка, у цябе-ж ёсць сукенкі!

Тамара. Ну, ёсць! Але-ж ты ведаеш, колькі я марыла пра вішнёвую, колькі прасіла цябе... А ты пра ўсё забылася.

(Заплакала. Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Андрэй Клімавіч, спыняецца ля дзвярэй і слухае.)

Вера Ігнатаўна. Дык ты вішнёвую сукенку хочаш?

Тамара. І хачу! А што ты думаеш? Ты сама прыбірацца будзеш? Сорам табе маладзіцца на старасці год! (З плачам выбягае ў спальню і праз хвіліну адтуль вылятае карычневая сукенка і падае пад ногі Веры Ігнатаўны.)

Тамара (выглянуўшы з-за дзвярэй). Калі ласка! Можаш насіць! Прыбірайся! А мне не трэба такіх убораў.

Вера Ігнатаўна. Тамарачка, ну, даруй мне, дурніцы! Гэта ўсё Андрэй Клімавіч. Нагаварыў мне добрых слоў... у мяне ніколі не было такой прыгожай сукенкі... Але гэта глупства... (Цалуе Тамару.) Безумоўна, такую сукенку можаш насіць толькі ты. У ёй ты будзеш самая прыгожая...

Тамара. Дзякуй, мама. Не злуйся. (Бярэ крэпдэшын, перакідае яго цераз плячо.) А ведаеш, я ўжо і фасон прыдумала.

(Андрэй Клімавіч кашлянуў. Вера Ігнатаўна і Тамара ўбачылі яго, разгубіліся. Тамара кінула шоўк і выбегла ў спальню.)

Андрэй Клімавіч (падняў з падлогі сукенку, не спяшаючыся, павесіў яе на крэсла, падышоў да Веры Ігнатаўны). Вы што-ж гэта, Вера Ігнатаўна? Мы вас паважаем, але дараваць такую справу нельга. Каго гэта вы выхавалі? Эгаістку, самадура?

Вера Ігнатаўна. Чаму самадура? Андрэй Клімавіч, як вы можаце?..

Андрэй Клімавіч. Вы толькі падумайце, каму патрэбны такія людзі? Вы думаеце, што выхаванне дзяцей — гэта сямейная справа?.. Вось яна паабедала, а пасуда стаіць...

Вера Ігнатаўна. Яна хацела, але я не дазволіла...

Андрэй Клімавіч. Эх, вы... Вось вы яе шкадуеце, а яна што робіць? Сукенку вам у твар кідае? А вы яе зарабілі сваёй сумленнай працай. А яшчэ студэнтка!

Тамара (паяўляецца ў дзвярах, з абурэннем). Студэнтка! Ну, і што-ж з таго?

Андрэй Клімавіч. Студэнтка? А вось цікава было-б паглядзець, як ты талеркі мыеш! Гэта ты абедала?

Тамара. Не ваша справа.

Андрэй Клімавіч. Я ў васемнаццатым годзе бачыў такіх паненак, як ты.

Тамара. Не лайцеся! Пане-енка! Можа я больш за вас працую.

Андрэй Клімавіч (спакайней). Добром цябе прашу, зрабі для мяне, старога партызана, ласку — памый талеркі.

Тамара (на яе твары пагардлівая ўсмешка).

Андрэй Клімавіч. А то давай разам памыем. Ты-ж усёроўна адна не ўмееш.

Тамара (падыйшла да стала і з каменным выразам на твары пачала збіраць нямытыя талеркі).

Андрэй Клімавіч. Вось маладзец!

Тамара (паўшэптам). А вам што да гэтага?

Андрэй Клімавіч. Няўжо сама памыеш?

Тамара (ціха, накіроўваючыся ў спальню). Халат апрану.

Андрэй Клімавіч (услед). Ах ты, модніца! «Не лайцеся!».. Вось я вазьму цябе ў работу! (Закасвае рукавы.)

Тамара (выйшла са спальні ў рабочым халаце. Ёй няёмка, што Андрэй Клімавіч збіраецца мыць пасуду). Думаеце, толькі вы ўмееце ўсё рабіць. Пасуду вы самі не ўмееце мыць. Жонка мые. Давайце сюды! (Забірае ў яго талерку.)

Андрэй Клімавіч. А ты не фыркай! Спакойна!

Вера Ігнатаўна (нібы апамятаўшыся кінулася да стала). Навошта гэта? Таварышы...

Андрэй Клімавіч. Супакойцеся! (Узяў яе за руку і пасадзіў у крэсла. Тамара ўзяла тазік і пайшла на кухню па ваду.)

Вера Ігнатаўна. Што-ж гэта такое тут робіцца, Андрэй Клімавіч?

Андрэй Клімавіч. Нічога асаблівага Вось, Вера Ігнатаўна, да чаго вы давялі сваю дачку. І ўсё гэта таму, Вера Ігнатаўна, што сваю любоў да яе вы ператварылі ў нейкую ахвяру. Вы думалі, што знойдзеце ў гэтым шчасце, радасць? Не, у такой любві не можа быць ні шчасця, ні радасці, ні для вас, ні для дзяцей. А ўсё гэта ад... сляпой мацярынскай



любві. А нашаму грамадству не патрэбны людзі, выхаваныя на маўклівым подзвігу мацярэй.

Вера Ігнатаўна (пасля роздуму). Мне здаецца так, я толькі цяпер пачынаю разумець, што многа год на сваіх плячах несла нейкі вялікі цяжар. Я так прывыкла да гэтага цяжару, што нават не заўважала яго. Але цяпер я адчула гэты цяжар... Хоць, шчыра кажучы, я яшчэ не ведаю, ці змагу я інакш...

Андрэй Клімавіч. Зможаце, Вера Ігнатаўна. Калі вы зразумелі гэта, значыць, абавязкова зможаце. (Увайшла Тамара, мые пасуду.)

Андрэй Клімавіч. На цябе, Тамара, і паглядзець цяпер прыемна. Зусім другая дзяўчына. А сукенкамі кідацца нельга. За прыгажосцю гонішся, а сама робіш так непрыгожа, што проста плюнуць хочацца. Вось, думаў я, на нейчую галаву гадуецца ліха.

Тамара (ужо без злосці). А можа не ліха, а шчасце?..

Андрэй Клімавіч. Якое з цябе шчасце можа быць, калі ты скваппая...

Тамара (трывожна). Няўжо праўда? Мама, чаму ты маўчыш? Хіба я скваппая? Чаму ты раней мне гэтага не сказала?

Вера Ігнатаўна. Раней? Раней я сама шмат чаго не бачыла.

Андрэй Клімавіч. І якая ты няўдзячная, сказаць сорам! Веру Ігнатаўну ўвесь завод паважае, а ты... Ды як ты мыеш?.. А з другога боку хто будзе мыць?

Тамара. Ой!

Андрэй Клімавіч. Войкаць ты ўмееш, а маці дапамагчы не хочаш. А ёй, думаеш, лёгка? Цэлы дзень працуе, а дадому прышла, прыслужваць трэба. І каму прыслужваць? Табе? Гэта за што-ж?

Тамара (апраўдваецца). Мама шкадуе мяне. Яна не дазваляе мне нічога рабіць...

Андрэй Клімавіч. Ма-а-ма! А ты сама павінна разумець. Не маленькая. Вось прыдзі да мяне, паглядзі, — не горшыя за цябе дзяўчаты — і з косамі, і адукаваныя таксама, адна гісторыкам будзе, другая — доктарам... А як яны маці дапамагаюць!

Тамара. А што вы думаеце? Вазьму і прыду.

Андрэй Клімавіч. І прыдзі. Карысна будзе. Душа ў цябе добрая. Вось распесцілі цябе толькі... А талеркі ты ўсё-такі не ўмееш мыць. Спаласнула трохі, а яны як былі ў тлушчы, так і засталіся. Трэба добра пашараваць... Вось так. (Паказвае.)

Тамара. Дзякуй, Андрэй Клімавіч.

Андрэй Клімавіч. Вось правільна. Трэба дзякаваць за добрую навуку.

Тамара (прыбрала талеркі, пачала выціраць буфет).

Андрэй Клімавіч (пераглянуўся з Верай Ігнатаўнай і працягвае Тамары руку). Бывай, Тамара!

Тамара (падае руку). Зараз-жа прасіце прабачэння за ўсе крыўдныя словы! Нагаварылі: паненка, скваппая... Хіба можна так з дзяўчатамі абыходзіцца?

Андрэй Клімавіч (усміхаючыся). Прабач, больш гэтага не будзе. Гэта я знарок, каб ты лепш зразумела ўсё.

Тамара. І зусім я не паненка і не скваппая. Вось убачыце. Толькі заходзьце да нас. Абяцаеце?

Андрэй Клімавіч. Дзякуй, зайду. Але з умовай — я і дочак з сабой прывяду.

Вера Ігнатаўна. Калі ласка, прыходзьце!

Андрэй Клімавіч (да Веры Ігнатаўны). Добрая ў вас дачка, Вера Ігнатаўна, шчырая! Але песціць яе не трэба. Вы, Вера Ігнатаўна, і пра сябе думайце, жывіце шчасліва, прыгожа. Вы заслужылі гэта. Мы комунізм для таго будуем, каб нашым людзям жылося добра... Ну, мне час дадому. Да пабачэння! (Выходзіць.)

Вера Ігнатаўна, Тамара (разам). Да пабачэння, Андрэй Клімавіч! (Вера Ігнатаўна і Тамара нейкі момант глядзяць адна на адну.)

Тамара. А ведаеш, мама, Андрэй Клімавіч вельмі разумны і добры чалавек. Вось ён насварыўся на мяне, а мне не крыўдна.

Вера Ігнатаўна. Гэта таму не крыўдна, што ён дабра нам жадае.

Тамара. У мяне такое адчуванне, нібы перад маімі вачыма ўсё перавярнулася...

Вера Ігнатаўна. І ў мяне таксама... Мне здаецца, Тамара, што я зрабіла вялікую памылку. Я няправільна выхоўвала цябе. Мы няправільна жылі.

Тамара. Няправільна? А як-жа правільна?

Вера Ігнатаўна. Як?.. Я яшчэ і сама добра не ведаю. Але толькі не так, як раней! Сядзем. (Садзяцца.) Давай пагаворым...

Тамара. Я слухаю цябе, мама.

Заслона.

# ПОДЗВІГ НІКАЛАЯ ГАСТЭЛЫ









...З самай раніцы па шашы Маладзечна — Радашковічы ішлі калоны варожых танкаў. Іх пільна ахоўвалі зенітныя батарэі. Неўзабаве ў паветры паявіліся тры совецкія самалёты. Сотні кілаграмаў бомб скінулі яны на варожыя танкі. Зеніткі адкрылі агонь. У бой уступілі фашысцкія самалёты. Іх было значна больш. Нашы машыны атрымалі пашкоджанні. Спачатку адна, а потым другая вымушаны былі пакінуць поле бою. Загарэлася трэцяя.

І тады здарылася нечаканае. Палаючы самалёт, рэзка перамяніўшы курс, пайшоў над варожай калонай і, скінуўшы апошнія бомбы, урэзаўся ў яе... Моцныя выбухі скаланулі наваколле.

Кожны совецкі чалавек ведае імя лётчыка, які зрабіў гэты геройскі ўчынак. Гэта капітан Нікалай Францавіч Гастэла. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР яму пасмертна было прысвоена званне Героя Совецкага Саюза.

Подзвіг Нікалая Гастэлы залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю Вялікай Айчыннай вайны, у гісторыю барацьбы і перамог совецкага народа. Яго імя будзе жыць у вяках, з'яўляючыся прыкладам беззаветнага служэння Радзіме. На тым месцы, дзе загінуў бясстрашны лётчык са сваімі баявымі таварышамі лейтэнантам А. А. Бурдзенюком, лейтэнантам Г. Н. Скарабагатым і стралком-радыстам А. А. Каліні́ным, згодна рашэння совецкага ўрада будзе пастаўлены помнік.

Вобраз Нікалая Гастэлы, яго гераічны подзвіг натхніў многіх дзеячоў літаратуры і мастацтва на стварэнне літаратурных твораў, твораў жывапісу і скульптуры. У горадзе Мураме, дзе на працягу сямі год жыў і працаваў Н. Ф. Гастэла, створаны мемарыяльны музей яго імя. Многа матэрыялаў аб жыцці, дзейнасці і гераічным подзвігу вернага сына беларускага народа сабрана ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Экспазіцыі музея, прысвечаныя Нікалаю Гастэлу, увесь час папаўняюцца новымі матэрыяламі.

У гэтыя дні, у сувязі з дванаццатай гадавінай з дня гераічнай смерці Н. Ф. Гастэлы, музей наведваюць шматлікія экскурсіі працоўных. Сюды прыходзяць рабочыя, навуковыя супрацоўнікі, студэнты, вучні школ. З цікавасцю аглядаюць яны фотаздымкі, дакументы і другія экспанаты.

Вось асабістая справа Н. Ф. Гастэлы. Крок за крокам з дакументальнай дакладнасцю адлюстраваны тут шлях лётчыка. У характарыстыцы, якая была выдана яму пасля заканчэння школы пілотаў, гаворыцца аб выдатных якасцях лётчыка, чалавека, комуніста.

З далёкага Забайкалля, ад калгаснікаў сельгасарцелі, якая носіць імя Н. Ф. Гастэлы, прышло хвалюючае пісьмо. У ім хлебаробы расказваюць аб сваім жыцці, аб поспехах у барацьбе за высокі ўраджай. Або вось пісьмо ад гарнякоў шахты з Молатаўскай вобласці. Ушаноўваючы памяць легендарнага героя, гарнякі прысвоілі сваёй шахце яго імя. У пісьме да маці героя яны паведамляюць: «Шахта, якая носіць імя Вашага сына, адна з перадавых у трэсце. Гастэлаўцы працуюць не шкадуючы сіл, яны выдаюць штогод многа вугалю звыш плана».

Імем Гастэлы названы ў нашай краіне школы, навучальныя ўстановы, прадпрыемствы, калгасы. Совецкі народ свята ўшаноўвае памяць свайго адданага сына.

**Я. КАШЧЭНЯ.**

**Экіпаж самалёта Н. Гастэлы.** На здымках (зверху ўніз): **Герой Совецкага Саюза Н. Ф. Гастэла, А. А. Бурдзенюк, Г. Н. Скарабагаты, А. А. Калінін.**

## НОВАЯ РАДЗІМА ХЕРАРДА ВІЯНА

Упершыню пачуў гэтую песню Херарда пятнаццаць гадоў назад на сваёй радзіме, у маленькай вёсцы ля іспанскага горада Галярты. Высокі лётчык з блакітнымі, як чыстае неба, вачыма і такімі рэдкімі ў краіне баскаў русымі валасамі прачула спяваў яе сваім таварышам — салдатам рэспубліканскай арміі. І хоць хлопчык не разумеў слоў незнаёмай, зусім не падобнай на іспанскую, мовы, велічная і прыгожая мелодыя, а таксама пачуццё, якое гучэла ў голасе спевака, усхвалявалі яго.

— Аб чым ён спявае, тыо *)? — спытаў Херарда аднаго са слухачоў — знаёмага шофера-сержанта.

— Аб сваёй радзіме, мой хлопчык.

Можа і не ўспомніў-бы пра гэты выпадак Херарда, калі-б праз восем або дзесяць месяцаў не давялося яму сыйсці з вялікай групай дзяцей абаронцаў Іспанскай рэспублікі на прычал Ленінградскага порта. Змучаныя доўгай дарогай, у час якой давялося цярпець і налёты франкісцкіх паветраных піратаў, і пагрозы гітлераўскіх падводных лодак, і здзекі французскіх і англійскіх таможных чыноўнікаў, хлопчыкі і дзяўчынкі не стрымалі слёз радасці, убачыўшы перад сабой мноства людзей, якія з кветкамі і падарункамі прышлі іх сустракаць. І калі загрымеў аркестр, дванаццацігадовы Херарда адразу пазнаў баявую, магутную, шырокую і такую запамінальную мелодыю. Дык гэта аб совецкай краіне так хвалююча спяваў незнаёмы лётчык! Дык гэта ў совецкай краіне жывуць такія моцныя і прыгожыя людзі, з адкрытым, адданым народу і айчыне сэрцам!

Мацярынскай ласкай і клопатамі акружыла маленькіх іспанцаў іх новая радзіма. Інжынерамі і ўрачамі, архітэктарамі і воінамі, спартсменамі і вучонымі сталі яны ў нашай краіне.

Жыццё Херарда Віяна склалася гэтак-жа, як жыццё тысяч яго суайчыннікаў, якіх у трагічны для Іспаніі час прытуліў Совецкі Саюз, гэтак-жа, як жыццё кожнага совецкага юнака. Ён закончыў дзесяцігодку і займаецца зараз на завочным аддзяленні інстытута замежных моваў. Працаваў піонерважатым, настаўнікам, зараз з'яўляецца загадчыкам навучальнай часткі Парэчынскага дзіцячага дома № 2, каля Гродна. Быў піонерам, комсамольцам, нядаўна ўступіў у партыю.

...І зараз Херарда Віяна часта спявае са сваімі выхаванцамі цудоўную «Песню аб Радзіме» — гімн Совецкай краіне, якая з'яўляецца лепшым другам няскоранага народа Іспаніі і ў якой кожнаму маладому чалавеку шырока адкрыта дарога ў шчаслівае, радаснае жыццё.

**Ул. МЕХАЎ.**

*) Тыо — дзядзя (іспанск.).



На беразе Парэцкага возера (Гродненская вобласць). Група выхаванцаў дзіцячага дома № 2 слухае апавяданне свайго настаўніка Херарда Віяна.

Фота А. Дзітлава.

# АЛЯКСАНДР МАТРОСАЎ



**Васіль СОКАЛАЎ**

З даўніх часоў у Савецкай Арміі жыве свяшчэнная традыцыя: аддаваць чэсць героям. Пра іх з павагай гавораць таварышы па зброі, іх подзвігамі захапляюцца маладыя салдаты, якія жадаюць быць падобнымі да герояў.

Заходзіш ва ўтульны, любоўна прыбраны пакой палітычна-асветнай работы, і на сцяне абавязкова ўбачыш партрэт героя або адлюстраваны на малюнку момант самога подзвіга.

Пералістваеш пажаўцеўшую ад часу вельмі дарагую баявую гісторыю часці, і знаходзіш апісанне гераічных учынкаў савецкіх воінаў. Тут скупа і проста напісана пра ўсё: раён баявых дзеянняў, абставіны, сам подзвіг, час, калі гэта адбылося. Доказам служыць фотаздымак, зроблены невядомым ваенным фатографам...

Аляксандр Матросаў — самы просты, самы звычайны савецкі юнак — у суровую гадзіну вайны пайшоў на фронт і ў баі за вёску Чарнушкі зрабіў гераічны подзвіг. Раней яго імя не было шырока вядома ў арміі і, тым больш, у краіне. І вось вестка аб ягоным подзвігу перадалася з акопа ў акоп, па ўсяму фронту. Усюды з найвялікшай любоўю вымаўлялася:— Аляксандр Матросаў!

Да гераічнага подзвіга Аляксандр Матросаў быў падрыхтаваны ўсім ладам нашага савецкага жыцця, які адкрыў неабмежаваныя магчымасці для праяўлення асабістых здольнасцей, таленту.

Яго біяграфія кароткая і вельмі яркая. Нарадзіўся Саша Матросаў у 1924 годзе ў Днепрапятроўску. Хутка ён застаўся сіратой. Але яго не чакаў лёс абяздоленага дзіцяці. Савецкія людзі атулілі яго цеплынёй і ласкай. Саша быў накіраваны на выхаванне ў працоўную калонію, якая знаходзілася ва Уфе.

Радасны і шчаслівы шлях адкрыўся перад Сашам Матросавым. Ён закончыў школу-сямігодку. Працаваў на мэблевай фабрыцы, потым на паравозабудаўнічым заводзе, дзе навучыўся слясарнай справе. Работа ў яго руках кіпела. Ён выконваў норму на 200—300 працэнтаў.

Вайна спыніла наша мірнае жыццё. Ішлі першыя месяцы цяжкай бітвы. З фронта паступалі трывожныя весткі. Восенню 1942 года Аляксандр Матросаў пайшоў у армію, узяўся за зброю, каб абараняць родную зямлю, біць ненавісных захопнікаў. У Савецкай Арміі Сашу прынялі ў комсамол. Прымаючы дарагі, блізкі яго сэрцу комсамольскі білет, Матросаў глыбей адчуў, што ён сын свабоднага народа, які даверыў яму абараняць Радзіму і шчасце, што ён комсамолец, які не павінен ведаць страху ў барацьбе, што ён абавязак быць заўсёды ў першых радах воінаў.

Быў люты 1943 года. Гвардзейскі полк, у якім служыў Аляксандр Матросаў, рухаўся ўсё далей і далей на захад. Ні лютаўскія ледзяныя ветры, ні бездарожжа, ні варожыя ўмацаванні — нішто не магло стрымаць націску гвардыі. Вораг быў выбіты са старадаўняга рускага горада Вялікія Лукі. Лінія фронта цяпер ішла па рацэ Ловаць. І вось прышоў загад: вызваліць вёску Чарнушкі, дзе фашысты вельмі ўмацаваліся і стрымлівалі наш рух наперад. Гвардзейцы ўспрынялі баявую задачу як клятву. Перад боем у густым бары праходзіў комсамольскі сход. Салдаты вырашалі, як найлепш выканаць загад камандзіра. Выступіў Аляксандр Матросаў. Хвалюючыся, ён сказаў:

— Я буду змагацца з ворагам, пакуль мае рукі трымаюць аўтамат, пакуль б'ецца маё сэрца.

Бой за Чарнушкі пачаўся з раніцы. Група гвардзейцаў выйшла на ўскраіну лесу. Адсюль добра была відаць савецкая вёска, захопленая ворагам. Да яе, здаецца, зусім блізка, але гэтую адлегласць цяжка пераадолець. На шляху раскінулася поле, толькі дзе-ні-дзе зарослае хмызняком. Салдаты паімкнуліся перабегчы яго, але раптоўна іх спыніў моцны кулямётны агонь. Асабліва згубны агонь вёўся з невялікай вышыні: пад ёю знаходзіўся варожы дзот.

Бліжэй за іншых каля варожага гнязда апынуўся радавы Аляксандр Матросаў. Яшчэ раней, да пачатку бою, ён змог паўзком падкрасціся да дзота. Цяпер Матросаў бачыў, як надзвычай цяжка таварышам перабегчы паляну: не дазваляў узняцца варожы кулямёт. Пад яго смяртэльным агнём гвардзейцы залеглі ў снезе. Пачуліся стогны параненых. Усё-ж гвардзейцы, разграбаючы рукамі снег, паўзлі наперад. На змену загінуўшым станавіліся другія. А варожы кулямётны агонь рабіўся ўсё больш жорсткім.

Здавалася, атака вось-вось захлынецца, і салдаты, баявыя таварышы Матросава, застануцца ляжаць на снезе. Не, гэтаму не бываць! Прышла чарга і Аляксандра Матросава. Ён бліжэй за ўсіх знаходзіцца каля варожага дзота. Ён павінен, абавязкова павінен знішчыць кулямётнае гняздо і тым самым выратаваць таварышаў, адкрыць шлях для іх наступлення.

Матросаў папоўз. Не гледзячы на шквал кулямётнага агню, ён поўз проста да дзота. Хтосьці з салдат, што ляжалі на снезе, заўважыў воіна. Пачуўся шэпт: «Паўзе... Саша паўзе!» Толькі некалькі крокаў аддзяляла яго ад варожага землянога прыстанішча. Вось бясстрашны воін на імгненне ўскочыў і амаль ва ўпор выпусціў чаргу з аўтамата па амбразуры. Унутры дзота прагучаў выбух, з чорнай зяпы амбразуры папоўз сіняваты дымок. Пазней салдаты высветлілі, што куля трапіла ў міну, якая і ўзарвалася. Але дзот прадаўжаў жыць. Варожы кулямёт зноў прыціснуў да зямлі нашых салдат.

Настала рашаючая мінута. У Матросава не было ні гранат, ні патронаў. Але ён усведамляў, што выйгрыш бою і лёс таварышаў, якія ляжаць пад агнём ворага, залежаць ад яго. Трэба было неадкладна знішчыць агнявое гняздо ворага. Знішчыць абавязкова. І ён вырашыў дзеля вялікай мэты ахвяраваць сваім жыццём.

Не марудзячы ні секунды, Матросаў асцярожна падпоўз да дзота. Сабраўшы ўсе свае сілы, ён узняўся на ўвесь рост і кінуўся на амбразуру дзота. Варожы кулямёт яшчэ нейкі час спрабаваў страляць, але агонь яго ўжо быў не страшны: сваім целам, нібы стальным шчытом, Матросаў закрыў смяртэльны агонь фашысцкага кулямёта.

Баявыя сябры героя ў адзіным парыве ўзняліся і кінуліся на штурм варожых пазіцый. Яны помсцілі фашыстам за смерць свайго таварыша. Неадольны быў наступ гвардзейцаў. З імем Сталіна на вуснах яны мужна ішлі наперад. Вёска Чарнушкі была занята нашымі войскамі.

Вестка аб подзвігу Матросава даляцела да Масквы. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР 19 чэрвеня 1943 года гвардыі радавому Аляксандру Мацвеевічу Матросаву пасмертна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Імя героя, яго подзвіг назаўсёды ўвекавечыў загад таварыша Сталіна. Часць, у якой служыў герой, стала насіць назву: «254 гвардзейскі стралковы полк імя Аляксандра Матросава». Герой навекі залічаны ў спісы першай роты палка, і кожны раз на паверцы першым называюць імя Аляксандра Матросава.

Вялікі гонар служыць у палку імя Героя Савецкага Саюза Аляксандра Матросава. Воіны даражаць гэтай чэсцю. У часы вучобы і службы салдаты праслаўленага палка імкнуцца быць падобнымі да юнага героя-комсамольца, на яго прыкладзе авалодваюць ваенным майстэрствам, загартоўваюць фізічныя сілы і волю, каб быць сапраўднымі абаронцамі роднай Айчыны.

У палку і да гэтага часу з вялікай любоўю захоўваюць усё, што звязана з імем героя. У пакоі Славы вывешаны фотаздымкі, карціны, гістарычныя дакументы, якія расказваюць аб высокародным жыцці і подзвігу гвардыі радавога Аляксандра Матросава. На відным месцы змешчана фотакопія комсамольскага білета, які быў узяты з кішэні гімнасцёркі героя адразу пасля бою. Тады-ж, на полі бою, быў зроблены ў білеце надпіс: «Лёг на агнявую кропку ворага і заглушыў яе. Праявіў гераізм».

У вядомы полк прыязджаюць дэлегацыі моладзі, пошта прыносіць сюды пісьмы і тэлеграмы з усіх канцоў неабсяжнай Савецкай Радзімы, з замежных краін. Пішуць героі працоўнай славы, удзельнікі будоўляў пяцігодкі. Вялікі подзвіг радавога салдата служыць для іх узорам у працоўнай дзейнасці. На многіх новабудоўлях ёсць комсамольска-маладзёжныя брыгады будаўнікоў, якія носяць імя Аляксандра Матросава. Маладыя будаўнікі з Балгарыі пішуць у полк аб новым жыцці, аб тым, што ў іх краіне працуюць дзесяткі брыгад імя Аляксандра Матросава.

Свае Матросавы з'явіліся ў Народным Кітаі, у гераічнай Карэі. Некалькі сутак падрад кітайскія добраахвотнікі вялі цяжкі бой у раёне карэйскага горнага хрыбта Сангань. Іх наступленне на адну вышыню запыніў варожы дот. І вось сувязны пры штабе батальёна, кітайскі добраахвотнік Хуан Цзі-гуан папрасіў дазволу знішчыць амерыканскі дот. У цяжкім паядынку салдат быў паранены, але не пакінуў поля бою. Падрабязна апісваючы гэты подзвіг, часопіс «Народны Кітай» (№ 1, 1953 г.) паведамляе: «... нашы байцы ўсё яшчэ ляжалі на схілах вышыні перад варожым дотам і не маглі ўзняць галоў. Усе надзеі былі на яго, на Хуана. Пагляджэўшы на варожы дот, ён пашукаў рукой вакол сябе міны. Але мін не было. Цяпер у яго заставалася адзіная зброя — сваё ўласнае цела, прабітае ў сямі месцах варожымі кулямі. У гэтым целе білася сэрца, поўнае нянавісці да ворага.

Тады Хуан паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава».

Так вялікі прыклад патрыёта савецкай Радзімы Аляксандра Матросава натхняе і кліча на подзвігі. Яго вобраз заўсёды ў страі савецкіх воінаў, яго імя ў сэрцах савецкага народа. На прыкладзе Аляксандра Матросава савецкая моладзь і нашы воіны вучацца гераічнаму служэнню сваёй соцыялістычнай Радзіме.



Мал. С. Раманава.

# НА РАЦЭ

Р. НЕДАСЕКІН

**Апавяданне**

Лёша не звяртае на мяне ўвагі, хоць плач. Я ведаю, якую яму трэба дзяўчыну. Яна павінна быць прыгожай (Лёша сам прыгожы), разумнай (Лёша вельмі разумны) і, вядома, адукаванай. А што я такое?.. Восем класаў закончыла ды месячныя курсы багажных касіраў. Твар у мяне звычайны, круглы, як талерка. Косы я абстрыгла ў мінулым годзе, калі ў мяне ні з таго ні з сяго пачала балець галава. Вочы без усялякага выразу... Не, вочы ўсё-ж нічога — яны карыя і вясёлыя. Затое фігура... Я, дальбог, не ведаю, чаму я такая маленькая і тоўстая. Летам я два месяцы харчавалася адным салатам, ногі ледзь перастаўляла, але ўсёроўна не пахудзела. Пры такім выглядзе толькі дурань аб чым-небудзь марыць можа... І яшчэ я ведаю адзін свой недахоп: мяне лёгка рассмяшыць. Некаторыя гэтым карыстаюцца. Міхась Капусцін, калі нас збіраюць на нараду, садзіцца насупраць мяне і з-за спіны Пракопа Змітравіча паказвае палец. Начальнік прыстані строга на мяне глядзіць, а я рагачу... Мне, вядома, заўсёды пападае, але я нічога не магу зрабіць...

А Лёша надта сур'ёзны. Я пры ім ніколі не смяюся. Форма яму да твару, толькі дарэмна ён не трымае плечы проста. Я прыкмячала, што ўсе высокія хлопцы злёгку сутуляцца, нібы саромеюцца свайго росту. А дзяўчатам падабаюцца высокія. Лёша таксама многім падабаецца. Кладаўшчык Клава Пагодзіна заўсёды стараецца падыйсці да яго і пра што-небудзь запытаць, толькі-б ён з ёю пагаварыў. Я ведаю, што перад гэтым яна паглядзелася ў люстэрачка. Ляля Укропкіна, радыстка, таксама загаварвае з Лёшам. Ляля мне падабаецца больш, чым Клава. Клава чорная, крыклівая, а Ляля тоненькая бландзіначка, вельмі ветлівая і прыгожая. Аднак Лёша і Лялю быццам не прыкмячае...

Я люблю, калі да нашай прыстані падыходзяць пасажырскія цеплаходы. Адразу становіцца шумліва, іграе радыёла. Пракоп Змітравіч апранае парадны кіцель і ходзіць надзьмуты і важны. Капітаны сыходзяць на прыстань павітацца з ім за руку, а астатнія члены каманды памахваюць яму шапкамі і праз мегафон пачцява спраўляюцца аб здароўі. Пракоп Змітравіч пяцьдзесят год працуе ўжо на рацэ, яго тут ведае кожны. Цеплаходы затрымліваюцца каля нашай прыстані ўсяго на некалькі хвілін.

Але пасажырскія цеплаходы прычальваюць рэдка, большасць з іх абмінаюць нас, нават не прыцішваючы ходу. Тры разы ў тыдзень кацер «Вясёлы», ад якога за вярсту пахне мазутай, падцягвае да пагрузачнага пірса велізарную баржу. Пракоп Змітравіч сустракае іх ужо без параднага кіцеля. Капітан кацера ідзе ў пакой начальніка, расказваючы Пракопу Змітравічу пра танаж і глыбіню асадкі, а для нас надыходзіць гарачая пара, «аўрал», як кажа Міхась Капусцін. Ажывае пад'ёмны кран, я выпісваю накладныя, Клава Пагодзіна расчыняе вароты свайго склада, і пачынаецца пагрузка. Пагружаюць на баржу цэглу, якую прывозяць з суседняга цагельнага завода. Гэта не простая цэгла, а надзвычай высокай якасці; яе вырабляюць па спецыяльнаму заказу для будоўляў волжскіх электрастанцый. За пагрузкай наглядаюць Міхась Капусцін або Лёша, гледзячы на тое, хто з іх дзяжурыць. Яны абодва — памочнікі Пракопа Змітравіча. Міхась пры пагрузцы мітусіцца, лае матросаў і рабочых, лезе сам дапамагаць, і рабочыя яго таксама часта лаюць. Ён наогул неспакойны і страшэнны задзірака. Ростам ён трошкі вышэйшы за мяне, рыжы, а бровы і павекі ў яго белыя, іх і не відно. А калі дзяжурыць Лёша, усе працуюць моўчкі, таму што Лёша сам маўчыць і толькі пазірае на ручны гадзіннік. На Лёшы заўсёды кіцель выпрасаваны, бацінкі начышчаныя, шапка ў белым чахле. Мне вельмі падабаецца, што Лёша такі акуратны. Міхасю варта было-б у яго павучыцца...

Гэты самы Міхась надумаў за мной ухажваць. Я нават не ведала аб гэтым, але мне аднойчы сказала Клава. Потым я і сама заўважыла. Быў такі ціхі вечар, і рака нібы застыла. Сонца павольна-павольна хілілася да небасхілу, і на вадзе ляжалі шырокія ружовыя водсветы. Міхась падышоў да мяне і сказаў:

— Хадзем, пасядзім на жэрдачцы?

«Жэрдачкай» мы празвалі лаўку над самай вадой. Мы пайшлі туды і селі. У нас штосьці здарылася з пад'ёмным кранам, і ў Міхася вопратка і рукі былі запэцканы машынным маслам. Ён па свайму звычаю палез дапамагаць машыністу, але ніякай дапамогі, вядома, з гэтага не вышла, і давялося выклікаць з горада механіка. Рукі Міхась выцер анучкай, а шапку, якая больш за ўсё была запэцкана, паклаў на дальні канец лаўкі. Думкі ў яго яшчэ былі заняты паломкай крана, і ён некалькі разоў паўтарыў:

— Толькі-б баржу нам не прыслалі...

Але тут-жа сам сябе супакойваў:

— Раз няма заяўкі — не прышлюць.

Каб раззлаваць Міхася, я запярэчыла:

— Гэта не мае значэння. Возьмуць ды прышлюць. Як тады будзем грузіць?

Міхась адразу ўзлаваўся:

— Проста так нічога не бывае. Павінны заяўку зрабіць за дванаццаць гадзін...

Міхась абсалютна не ўмее размаўляць з дзяўчатамі. Яму здаецца, што акрамя рачнога транспарту, больш і размаўляць няма аб чым. Вось і цяпер ён пачаў тлумачыць мне канструкцыю землясоснага снарада. А мне было сумна. Пра землясосны снарад я ўжо дзесяць разоў чытала ў газетах.

Мне абрыдла сядзець, і я ўстала, каб ісці. Тут Міхась спахапіўся і пачаў запрашаць мяне ў парк, але я адмовілася. Бадай што ён і там будзе гаварыць пра машыны... Раптам я ўспомніла, што Міхась у нашым пасёлку прыезджы чалавек: родных тут у яго няма, а жыве ён на кватэры ў нашай бабулькі. Яму, напэўна, бывае маркотна... Я пашкадавала яго і згадзілася, каб ён суправаджаў мяне сёння дадому.

Аднак прышоў Лёша прымаць дзяжурства ад Міхася, і я перадумала. Мне не хацелася, каб Лёша ўбачыў, што мы пайшлі з Міхасём разам. Я адамкнула сваю канторку і пачала корпацца ў накладных, быццам я штосьці забылася аформіць. Міхась пахадзіў наўкол, зазірнуў у канторку і запытаўся:

— Ты скора?

— Ой, Міша, не чакай мяне, я тут зусім забылася... — зманіла я, і Міхась зразумеў, што я зманіла. Ён насупіўся, ад злосці па-вайсковаму казырнуў і павярнуўся на каблуках.

Зрабілася ўжо зусім цёмна, толькі ліхтары жоўтымі плямамі адлюстроўваліся на вадзе, і рака была падобна да асфальтаванай шашы пасля дажджу. Я марудзіла адыходзіць, таму што цяпер мне было боязна ісці адной у цемнаце. Праз гадзіну зменіцца з дзяжурства Ляля Укропкіна — нам з ёю ў адну дарогу. Лёша заўважыў мяне і запытаўся:

— Вам, Сіма, чаго тут?

Я баялася, каб хоць Лёша не падумаў, што я праз яго так позна затрымалася на прыстані. Але яму гэта і ў галаву не прышло. Не ведаю, што з ім такое здарылася, але ён раптам пачаў са мной размаўляць. Запытаўся, ці была я калі-небудзь у Маскве, і выказаў спачуванне, што не была. Ён так і сказаў — «спачуваю». Яшчэ запытаўся, чаму я не закончыла дзесяцігодку, і сказаў, што з маімі васьмю класамі я магу ўсё жыццё пратырчэць на гэтым старым галёшы, які завецца прыстанню. А пасля нечакана спахапіўся.

— А я ў Маскву еду, у інстытут.

У мяне пахаладзела ў грудзях, я толькі і змагла адказаць:

— Добра...

Мы стаялі на асветленым месцы, і Лёша, мабыць, прыкмеціў змену ў маім твары, таму што запытаўся:

— Вам не холадна?

Мне было горача, але я кіўнула галавой. Тут Лёшу паклікалі да радыётэлефона. Ён пайшоў роўным, спакойным крокам, адразу забыўшыся на мяне. Акно радыёрубкі было адкрыта, і я пачула яго цвёрды голас:

— Пагрузка баржы сёння ноччу немагчыма... Так, пад'ёмны кран няспраўны. Вось таму, што тэрміновы фрахт... Далажыце дыспетчару, што не можам прыняць... Не, не можам...

Лёша выключыў мікрафон, а праз хвіліну я пачула, як ён пытаўся ў Лялі — тыя самыя пытанні ставіў, што і мне. Ён, відаць, адчуваў сябе ўжо масквічом. А я ўспомніла, як Міхась запэўняў, што ноччу нам не прышлюць баржу на пагрузку, і зусім расхвалявалася. І я не стала чакаць Лялю, а пайшла дадому адна.

Алесь БАЧЫЛА

## А зязюля кукавала...

*Памяці Янкі Купалы.*

Пра зязюлю ёсць прыкмета —
Калі галасна паклічаш
Колькі жыць табе зім, летаў,
Дык яна ураз адлічыць.

«Як на свет радзіўся Янка»,
Дык зязюля кукавала,
У бары сасновым зранку
«Ку-ку, ку-ку» не змаўкала.

У лясах па ўсёй старонцы
«Ку-ку, ку-ку» чулі далі —
Гэта Янку жыць бясконца
Усе зязюлі прадракалі.

Ды народ наш верыў сэрцу,
Бо яно адно спазнала,
Што ўзнялася для бяссмерця
Песня шчырая Купалы.

У гэтай песні мы адчулі
Змалку родных з'яў нямала:
Голас роднае зязюлі,
Што ў бары нам кукавала;

Цеплыню сардэчнай ласкі,
Што маленства сагравала,
Прыгажосць народнай казкі,
Што надзеі калыхала;

Бурны подых хваляў жыта,
Што імкне з калгасных ніваў,
І народа працавітасць,
І жыццёвую шчаслівасць.

І пакуль жыць будуць людзі,
Пакуль сонца будзе ўсходзіць,
Жыць Купалы песня будзе
І імя яго ў народзе.

Назаўтра раніцой усе хадзілі хмурыя. І пагода таксама хмурылася, пачаў пырскаць дождж. Пракоп Змітравіч на чорную ватоўку ўздзеў брызентавы плашч — пры змене надвор'я ў яго заўсёды балела спіна — і першы раз я ўгледзела яго непаголеным. У сваім пакоі ён крычаў прастуджаным, хрыпаватым голасам невядома на каго:

— Зганьбілі на ўсю Волгу! Тэрміновы фрахт для будоўляў пяцігодкі зарэзалі! Пад старасць на вочы людзям не магу паказацца.

Сапраўды, Пракоп Змітравіч не вышаў сустракаць нават камфартабельны пасажырскі цеплаход Масква — Растоў. Замест яго каля прычалу быў Капусцін. На цеплаходзе быццам ведалі пра нашу ганьбу, ніхто не сышоў на прыстань, і радыёла на юце маўчала. Для мяне гэта быў самы цяжкі дзень за ўвесь час маёй работы. Лёша пасля начнога дзяжурства на прыстані не паказваўся. Клава мне шапнула, што заўтра Лёша будзе браць разлік. Міхась на мяне пакрыўдзіўся і пры сустрэчах адварочваўся, каб не вітацца. Клава абуралася, таму што з завода ўсё падвозілі цэглу, а склад быў бітком набіты. Ляля пазірала на ўсіх жаласлівымі вачыма і ўздыхала, як тады, калі яна ўпусціла ў ваду свае басаножкі. Пад'ёмны кран яшчэ не адрамантавалі, і Пракоп Змітравіч пагражаў, што аддасць машыніста пад суд, калі той не даложыць аб гатоўнасці праз дзве гадзіны. Я сланялася з кута ў кут, не знаходзячы сабе месца, і думала то пра Маскву, то пра «зарэзаны» тэрміновы фрахт. Мне было прыкра, што Лёша так лёгка перажывае непрыемнасць — нават не прышоў днём на прыстань — і чамусьці мне падумалася, што вось Міхась Капусцін абавязкова прыняў-бы баржу... І яшчэ я ўспомніла, як Лёша абазваў нашу прыстань «старым галёшам», і ў думках аблаяла яго «задавакай».

Ляля Укропкіна выскачыла з радыёрубкі і, стукаючы каблучкамі, праімчалася ў пакой начальніка. Праз секунду яна панеслася назад, за ёю шырока крочыў Міхась Капусцін, а ўжо за ім Пракоп Змітравіч. Міхасёў звонкі голас разнёсся па ўсёй прыстані:

— Так, шэсцьсот шаснаццаць... Ёсць прыняць на пагрузку! Ну і што-ж, калі няспраўны? Ну, затрымаем крыху, самі будзем грузіць... Ёсць падрыхтаваць прычалы!..

Тут Міхась быццам папярхнуўся, а мы пачулі хрыплаваты басок Пракопа Змітравіча:

— Шэсцьсот шаснаццатая слухае. Так, Мікалай Ігнатавіч... Так, вінават, недагледзеў... Ёсць, Мікалай Ігнатавіч... Абавязкова прымаем.. Слухаюся, Мікалай Ігнатавіч...

Міхась куляй вылецеў з радыёрубкі, шапка ў яго была ссунута на патыліцу, кіцель расхінуты, вочы блішчэлі. Я яму першай трапілася на вочы. Ён хапіў мяне за плячо і загадаў:

— Бяжы па Лёшку, хутчэй!

Потым склаў далоні рупарам і крыкнуў так, што ў мяне ў вушах зазвінела:

— Пагодзіну да мяне!

Я пабегла па Лёшу, хоць дождж паліў, як з вядра. Сукенка на мне стала прыліпаць да цела. Я запырскалася гразёю, і лёшына мама ніяк не хацела мяне пусціць у хату. У яе былі падмаляваныя губы і буйныя пацеркі на шыі. Калі яна дазналася, навошта выклікаюць Лёшу, яе апанаваў жах.

— Ці не з глузду вы з'ехалі?! Якія могуць быць баржы ў такі дождж?

Лёша нездаволена скрывіўся, зірнуў у акно і сказаў, патупіўшы позірк:

— Добра, я падыйду пазней...

Я была ўпэўнена, што ён прыдзе. Але ўсе ўжо сабраліся на пагрузачным пірсе, а яго не было.

— Ліха з ім! — сказаў Міхась і злосна плюнуў. — Без яго абыйдземся...

А я ўсё чакала. Я не магла ўявіць сабе, як можна не быць з таварышамі ў цяжкую для іх хвіліну. Гэта-ж нават слабенькая Ляля будзе грузіць цэглу... І няўжо яго не хвалюе лёс грузу для будоўляў пяцігодкі? Клава таксама чакала Лёшу, але яна першая махнула на яго рукой.

— Я заўсёды ведала, што ён любіць толькі самога сябе.

Мы здалёк убачылі кацер «Вясёлы». Дождж прыбіваў дым з яго коміна да вады, і здавалася, што гэта дыміцца рака. За ім павольна плыла велізарная баржа, падобная на вялікую балею. Міхась расставіў нас ланцужком і растлумачыў, як лягчэй падхопліваць цагліны. Наогул ён трымаўся так, быццам усё жыццё працаваў грузчыкам. Лялі ён загадаў абуць яркажоўтыя басаножкі, якія яна схавала ад дажджу, таму што босай працаваць небяспечна, а мне — зняць з пальца пярсцёнак з каменьчыкам. Сам Пракоп Змітравіч слухаўся яго парады. Толькі калі Міхась прапанаваў яму сысці пайсці з пірса, стары так на яго цыкнуў, што Міхась не рашыўся настойваць на сваім.

Я ніколі не думала, што цагліны такія цяжкія. Я ўся прыгіналася, калі падхоплівала ад суседа цагліну і перадавала яе далей. Але так было спачатку. Потым мы ўсе злавчыліся. З намі працавала каманда кацера, і мы грузілі ў дзве шарэнгі, спаборнічаючы паміж сабой. Неба паступова праяснялася, па вадзе разыходзіліся кругі ўжо ад асобных дажджавых кропель. Скора дождж зусім перастаў. Міхась, каб нас развесяліць, увесь час жартаваў. А Пракоп Змітравіч скінуў свой плашч і ватоўку і смешна пыхцеў, стараючыся не адстаць ад моладзі.

Раптам наш пад'ёмны кран зарухаўся, хобат яго зрабіў некалькі паклонаў, і машыніст замахаў рукамі, каб усе адыходзілі з-пад крана. Але з пірса мы не пайшлі да таго часу, пакуль баржа не асела ў ваду да ватэрлініі, і закончылі пагрузку на паўтары гадзіны раней тэрміну...

На другі дзень Лёша ад'язджаў. Ён сядзеў на прыстані ў старанна выпрасаваным кіцелі, але без пагонаў. Яго суправаджалі маці, бабулька і яшчэ нейкі дзядзька ў акулярах. Пракоп Змітравіч прайшоў паўз іх. Лёша па прывычцы ўстаў, але стары нават не паглядзеў на яго. А гэта-ж ён клапаціўся, каб Лёшу паслалі на вучобу...

Клава замкнулася ў сваім складзе. Ляля зачынілася ў радыёрубцы. Мне было дзіўна, як я гэтулькі часу была ў яго закахана. Зараз я глядзела на яго зусім роўнадушна. Міхась Капусцін паклікаў мяне ў дзяжурку і сказаў з разгубленым выглядам:

— Лёшку характарыстыка з месца працы патрэбна, а Пракоп Змітравіч сказаў, што няхай камсамольцы яе напішуць... У мяне почарк дрэнны, садзіся ты пішы...

Мы доўга не маглі нічога прыдумаць, таму што ніколі характарыстык не пісалі. Потым Міхась насунуў на вочы шапку і сказаў:

— Ведаеш што? Давай напішам, што працаваў ён добра, таму што гэта так і было. Але аб учарашнім выпадку таксама напішам. Калі ў інстытут яго прымуць, там яго студэнты перавыхаваюць.

Начальнік прыстані згадзіўся з тым, што мы напісалі, і заклеіў характарыстыку ў канверт. Цеплаход на Маскву паказаўся з-за павароту ракі. Ён пройдзе ўсцяж другога берага, але збавіць абароты вінта, каб узяць пасажыраў з прыстанскай шлюпкі. Сонца выглянула з-за хмар, заблішчэла на яго вычышчаных металічных частках.

— Пасажыры, у шлюпку! — скамандаваў Міхась.

Цеплаход працяжна загуў, збаўляючы ход. Яму адгукнуўся тонкім гудком кацер «Вясёлы», які, пыхкаючы, цягнуў да нашай прыстані чарговую баржу...

Пераклад з рускай мовы.



# Імя ЯНКІ КУПАЛЫ













На здымках: **1. Мінск. Будаўніцтва па вуліцы імя Янкі Купалы. 2. Будынак Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. 3. Супрацоўнікі Мінскай гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы комсамолкі І. Рысавец** (злева) **і Л. Людагоўская рыхтуюць выстаўку кніг любімага паэта. 4. Пасажырскі параход «Янка Купала» на рацэ Беразіна. 5. Моладзь калгаса імя Янкі Купалы Радашковіцкага раёна Маладзечанскай вобласці на гулянні.**

Фотанарыс Л. Матусевіча, М. Мінковіча і А. Дзітлава.

# Кніжная паліца

## ДОБРЫ ПАДАРУНАК

Янка Маўр — адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў — нарадзіўся ў сям'і рабочага. Да Кастрычніка ён прайшоў суровую школу барацьбы з жорсткімі нягодамі — з голадам, холадам, бяздомнасцю, бессардэчнасцю багатых. Цаной вялікіх намаганняў будучы пісьменнік атрымаў асвету. Аднак працу знайсці было нялёгка. Калі-ж знайшоў працу, яе адабралі ад яго царскія ўлады, выдаўшы «воўчы білет» за ўдзел у настаўніцкім з'ездзе 1906 года.




Суровая школа жыцця не перашкодзіла Янку Маўру пабачыць і адчуць цеплыню і прыгажосць шчырых, чалавечых пачуццяў, уласцівых людзям працы.

Усё гэта стварыла цвёрды і трывалы грунт, на якім, праўда, значна пазней, ужо ва ўмовах савецкай улады, развілася і вырасла літаратурная творчасць Янкі Маўра, яе тэмы і праблемы, яе вобразы. Для пісьменніка назаўсёды засталіся блізкімі і зразумелымі перажыванні працоўных людзей, іх барацьба за светлую будучыню.

У аповесцях і апавяданнях, сабраных у кнізе «Выбраныя творы», Янка Маўр выступае палымяным абаронцам працоўнага чалавека, адстойвае яго правы на свабодную працу, абараняе чалавечую годнасць прыгнечаных у капіталістычных умовах. Янка Маўр любоўна малюе вобразы людзей з народных нізоў. Не пераменшаючы ні іх адсталасці і забабонаў, ні абмежаванасці іх светапогляду, пісьменнік у той-ж час ярка паказвае, як так званае «культурнае» буржуазнае грамадства адстала ў сэнсе маралі і этыкі ў параўнанні з «дзікунамі» і першабытнымі людзьмі. Варта прачытаць аповесць «Сын вады», параўнаць учынкі «дзікуна» Манга і тройчы выратаванай ім ад смерці міс Грэт, каб убачыць, як далёка адыйшло — толькі не ўперад, а назад — буржуазнае грамадства ад тых этычных норм, якія яно само калісьці лічыла адзнакай культуры.

Маўр з пазіцый сапраўднага, савецкага гуманізма асуджае «цывілізацыю» капіталізма, які за бліскучую пэрлінку пасылае на смерць дзяцей Цэйлона («Слёзы Тубі») або за мізэрную плату купляе ў галодных бацькоў індускага хлопчыка ў якасці жывой прынады для кракадзіла («Незвычайная прынада»). Як сапраўднага гуманіста, Янку Маўра заўсёды цікавіць лёс жыхароў калоній, зняважаных і пакрыўджаных, якіх еўрапейскія і амерыканскія рабаўласнікі не лічаць за людзей. Выпукляючы найбольш характэрныя рысы людзей з абодвух супроцьлеглых лагераў, пісьменнік дасягае яркасці вобразаў, напружанасці сюжэта і моцнага ўздзеяння на думкі і пачуцці чытача.

Янка Маўр — настаўнік па прафесіі. У творах яго гэта адчуваецца на кожным кроку. Усе яны напоўнены каштоўным пазнавальным матэрыялам, незалежна ад таго ці пісьменнік расказвае аб далёкіх замежных краінах — Цэйлоне, Вогненнай Зямлі, Індыі, Італіі, ці аб нашым беларускім Палессі (аповесць «Палескія рабінзоны»).

Гэтая пазнавальнасць не вымяраецца ўзростам чытача. Для адных чытачоў гэтым новым будуць звычайныя геаграфічныя веды, веды па флоры і фауне, па этнаграфіі асобных краін, для другіх — веды з гісторыі развіцця грамадства (аповесць «Чалавек ідзе»), для трэціх — веды аб тых «бытавых дробязях», на якія мы не прывыклі звяртаць увагу (аповесць «ТВТ», апавяданне «Падарожжа вакол дома»). Але для ўсіх чытачоў творы Янкі Маўра прывабныя шырокім раскрыццём псіхалогіі чалавека і выхаваўчай накіраванасцю.

Пераважная большасць твораў Янкі Маўра адрасавана дзецям і юнацтву. На іх выхоўвалася і будзе выхоўвацца не адно маладое пакаленне.

М. КЛІМКОВІЧ.

---

Янка МАЎР. «Выбраныя творы», Дзяржвыдавецтва БССР, Мінск, 1952.

## У ІХ НЯМА ДЗЯЦІНСТВА

Шчасліва і радасна жывуць савецкія дзеці. Для іх пабудаваны прасторныя светлыя школы. Выключная ўвага аддаецца ў нас ахове здароўя дзяцей. Вялікая колькасць санаторыяў, піонерскіх лагераў, пляцовак робяць наша маладое пакаленне фізічна моцным, дужым, здаровым.

Па прыкладу Савецкага Саюза ўпэўнена будуюць новае, свабоднае жыццё працоўныя Кітая, Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, Венгрыі і іншых дэмакратычных краін. У гэтых краінах народная ўлада робіць усё, каб жыццё самых юных грамадзян было радасным і шчаслівым.

Але зусім не так жывуць дзеці ў капіталістычных краінах.

Там мільёны беспрытульных, галодных дзяцей гібеюць без хлеба, паміраюць ад розных хвароб.

У Нью-Йорку пад мастамі, пад лаўкамі паркаў, у пад'ездах прыладжваюцца на начлег сотні дарослых і дзяцей, у якіх няма ні грошай, ні хлеба, ні даху над галавой.

Нават буржуазныя амерыканскія газеты не могуць утаіць жахлівай галечы жыхароў нью-йоркскіх трушчоб. Карэспандэнт газеты «Сан» расказвае: «На працягу чатырохтыднёвай паездкі па раёнах нью-йоркскіх трушчоб я быў страшэнна здзіўлены, што людзям даводзіцца жыць тут ва ўмовах, якія нагадваюць сярэдневяковье... Я бачыў тут трушчобы, дзе пацукі кусаюць малых у іх калысках і часам наносяць ім такія раны, што дзяцей прыходзіцца класці ў бальніцу...»

Амерыканскі сенатар Дуглас апублікаваў у рэакцыйным часопісе «Кольерс» артыкул, у якім піша, што толькі ў адным Чыкага раёны трушчоб займаюць ад 12 да 20 квадратных міль. «Трушчобы — з'ява характэрная для ўсёй краіны», — заяўляе ён.

Газета «Нью-Йорк таймс» паведамляе, што 500 тысяч сем'яў ЗША жывуць у старых аўтапрычэпах, разбітых трамваях і вагонах, у кузавах выкінутых на звалку аўтамашын.

Нярэдкімі бываюць выпадкі, калі бацькі, каб выратаваць дзяцей ад галоднай смерці, прадаюць іх. Бізнесмены зрабілі гандаль дзецьмі адной з крыніц прыбытку. Яны выкарыстоўваюць купленых дзяцей як танную рабочую сілу.

Праз нястачу і голад ад 1 мільёна да 1 250 тысяч амерыканскіх дзяцей кожны год пакідаюць школу і ідуць шукаць работы. Ім даводзіцца працаваць па 12—14 гадзін у суткі і атрымліваць восьмую частку заработку дарослага.

У Амерыцы ў 1951 годзе на ваенныя расходы было асігнавана 80 працэнтаў бюджэта, а на асвету — менш аднаго працэнта. Дзецям неграў, індзейцаў, кітайцаў і многіх іншых нацыянальнасцей ЗША доступ у школу, па сутнасці, закрыты. Не дзіва, што колькасць зусім непісьменных людзей у ЗША дасягае 20 мільёнаў чалавек.

Метад выхавання ў амерыканскай школе — гэта перш за ўсё палка і ваенная муштра. Амерыканскі прафесар Одэгард адной чы сказаў: «Нам патрэбны не грамадзяне, а натоўп. Мы хочам выхаваць не вольных людзей, а робатаў...»

У такіх-жа ўмовах жывуць дзеці і ў іншых капіталістычных краінах.

У Англіі налічваецца 140 тысяч дзяцей, якія займаюцца жабрацтвам. Аб трагедыі французскіх дзяцей можна меркаваць па наступнаму факту. У 18-й акрузе Парыжа настаўніца прапанавала дзецям напісаць твор на тэму: «Які падарунак хацелі-б вы атрымаць?» Трынаццацігадовая вучаніца Жызель адказала: «Я хачу мець ложак, сапраўдны ложак, на якім спяць людзі...» У Рыме — дзесяткі тысяч хворых дзяцей. Яны не атрымліваюць патрэбнага лячэння, бо ў бальніцах горада толькі 170 ложкаў для дзяцей.

У франкісцкай Іспаніі тысячы абадраных галодных дарослых і дзяцей блукаюць з горада ў горад. У Іспаніі ёсць спецыяльная турма для матак з груднымі дзецьмі і да 350 дзіцячых турмаў.

З малых год асуджаны на непасільную працу, голад і хваробы дзеці індыйскіх працоўных. Англійскія каланізатары ўвялі дзіцячую працу ў краіне і жорстка эксплуатуюць дзяцей. У выніку голаду і хвароб у Індыі кожны год памірае да 4 мільёнаў дзяцей.

У Японіі толькі паводле афіцыйных даных больш 2 мільёнаў беспрытульных дзяцей. Маленькія рабочыя і работніцы ў выніку цяжкіх умоў працы, доўгага рабочага дня часта хварэюць. 70 працэнтаў усіх дзяцей, якія працуюць на фабрыках, хварэюць на туберкулёз.

Дзеці ўсяго свету разам з дарослымі актыўна ўдзельнічаюць у барацьбе за мір.

Народы свету адстаяць мір, выратуюць мільёны дзяцей ад жабрацтва і галечы!

Кніга «У іх няма дзяцінства» насычана багатым дакументальным матэрыялам, які знаёміць чытача з беспрасветным жыццём дзяцей у капіталістычных краінах, з барацьбой комуністычных партый за лепшы лёс народа і дзяцей гэтых краін, з барацьбой дзяцей і моладзі за мір.

М. ТАТУР.

---

Б. ЛУК'ЯНАЎ і В. ЛАТАЎ .«У іх няма дзяцінства», «Молодая гвардия», Масква, 1952.

## Родная краіна

# БЕРАЗІНА

У народзе называюць гэтую раку Бярозай.

На працягу ўсіх сваіх 580 кіламетраў, ад вярхоўя і да вусця, яна працякае па тэрыторыі Беларускай ССР. Вытокі Беразіны знаходзяцца ў Докшыцкім раёне Полацкай вобласці, непадалёку ад граніцы з Бягомльскім раёнам Мінскай вобласці. Спачатку яна цячэ на паўночны ўсход. Потым уліваецца ў невялікае возера Мядзель і, вышаўшы з яго, накіроўваецца на ўсход, да мястэчка Беразіна Бягомльскага раёна. Адтуль яна цячэ на поўдзень, амаль паралельна з Дняпром.

У верхняй сваёй плыні Беразіна цячэ ў мясцовасці нізкай і балоцістай, сярод густых, амаль някранутых лясоў. Тут у вялікай колькасці па яе берагах і берагах прытокаў водзяцца бабры. На лясных рэчках басейна Беразіны яны будуюць свае хаткі і грэблі. Нядзіва ўбачыць тут і лася, і касулю, і дзіка. У запаведных лясах над Бярозай сустракаюцца даволі часта мядзведзі, рысі, куніцы.

Звілістае рэчышча Беразіны з забалочанымі старыцамі, з густымі зараснікамі вольхі і лазы служыць надзейным прытулкам для выдры. На высокіх, магутных дрэвах гняздзяцца такія рэдкія ў нас птушкі, як чорны бусел і арлан-белахвост. Багаты і разнастайны жывёльны свет запаведніка.

Павольна цячэ Беразіна ў сваіх нізкіх, недаступных берагах, ствараючы сярод забалочаных лугоў ціхія плёсы і затокі з жоўтымі і белымі ліліямі. На даляглядзе ўсюды сінеюць лясы. Высяцца тонкія і стройныя бярозкі. Можа ад іх і атрымала рака сваю назву.

Пойма Беразіны вельмі шырокая. Гэта — балоцістая нізіна, якая густа зарасла рагазой, сітняком і калужніцай. Па зялёных лугах ходзяць буслы. Жаласна крычаць кнігаўкі. З высокага чароту ўзлятаюць дзікія качкі.

Недалёка ад паўднёвай граніцы запаведніка Беразіна ўліваецца ў шырокае, але неглыбокае возера Палік. Далей яе рэчышча значна пашыраецца.

Бярэзінская водная сістэма злучае басейн Дняпра з басейнам Заходняй Дзвіны. Праз Сергуцкі, ці Сергучоўскі, канал Беразіна злучаецца з ракой Бузянкай, з ляснымі азёрамі Плаўе, Манец і Ольшыца, з каналам возера Бярэшта, з ракой Бярэштай, Вербскім каналам, ракой Эсай, возерам Проша, Лепельскім каналам, Лепельскім возерам, другім Лепельскім каналам, ракой Улай і Чашніцкім каналам. Апошні злучае раку Улу каля мястэчка Чашнікі з Заходняй Дзвіной.

Бярэзінская водная сістэма была створана паднявольнай працай беларускіх прыгонных сялян у 1798 — 1805 гадах. Па гэтаму воднаму шляху лес з паўночнай лясістай часткі былой Мінскай губерні сплаўляўся ў Рыгу. Па Бярэзінскай сістэме везлі таксама ў баржах і лодках хлеб, соль, крупы.

Значэнне Бярэзінскага воднага шляху знізілася пасля таго, як былі пракладзены чыгуначныя лініі. Догляд каналаў спыніўся, берагі іх пачалі абвальвацца, а потым зараслі лазой, вольхай і асінай. Сергучоўскі канал, самы вялікі з каналаў Бярэзінскай сістэмы, выкарыстоўваецца цяпер толькі для ўнутраных, мясцовых патрэб. Па берагах канала над вадой многа бабровых нор.

Беразіна мае шмат прытокаў, невялікіх рэк і рэчак. З правага боку ў яе ўпадае Свіслач. Суднаходнай Бяроза становіцца пасля злучэння з ёю ракі Сергуч. У Дняпро яна ўпадае ў 25 кіламетрах вышэй горада Рэчыца. Пасля злучэння Беразіны з Дняпром колькасць вады ў Дняпры павялічваецца на адну трэцюю частку. Беразіна з'яўляецца адным з важнейшых прытокаў Дняпра ў Беларусі.

На Беразіне знаходзяцца гарады Барысаў і Бабруйск — буйныя цэнтры беларускай лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці.

Назва гэтай ракі звязана з многімі гістарычнымі падзеямі сусветнага значэння. Беразіна ўпамінаецца ў многіх творах мастацкай літаратуры і ў навуковых працах, прысвечаных гісторыі. Гэты водны рубеж быў не аднойчы месцам разгрому чужаземных захопнікаў.

Былі войны, бітвы,  
Слёзы, кроў ліліся,  
Шведа, Банапарта  
Сляды засталіся, —

пісаў пра Бярозу Янка Купала ў сваёй паэме «Барысаў».

Падзеям барацьбы за Барысаў з белапалякамі ў 1919 годзе і ролі ў гэтай барацьбе Серго Орджанікідзе прысвечана драматычная паэма Пятра Глебкі «Над Бярозай-ракой».

У 1648 годзе, у часы Багдана Хмельніцкага, украінскія казакі і беларускія сяляне-паўстанцы разбілі пад Горвалем войска польскіх паноў.

На берагах Беразіны, на пераправе каля Барысава, ішлі ў чэрвені 1708 года баі рускіх войск Пятра I з войскамі шведскага караля Карла XII.

Крыху вышэй Барысава, ля вёскі Студзёнка, знаходзіцца сусветна вядомае месца пераправы цераз Беразіну рэшткаў разбітай арміі французскага імператара Напалеона, які прэтэндаваў на ролю заваёўніка свету. Тут адбыўся канчатковы разгром яго войск.

Адсюль адыходзілі ў 1918 годзе ў непарадку, кідаючы зброю, салдаты імперыялістычнай кайзераўскай Германіі.

У ліпені 1920 года былі разбіты на рацэ Бярозе пад Барысавам і Бабруйскам белапольскія акупанты.

І, нарэшце, тым-жа шляхам, праз гэтыя мясціны, па старых слядах Напалеона, уцякалі пад ударамі Савецкай Арміі, гінучы ў водах Бярозы, гітлераўскія фашысты.

У нашыя дні Беразіна шырока выкарыстоўваецца ў прамысловых мэтах. Уніз па рацэ сплаўляюцца да Дняпра лес і будаўнічыя матэрыялы. Беразіна звязана з Дняпром параходным рухам. Ад Барысава рэгулярна робіць свае рэйсы пасажырскі параход, які носіць слаўнае імя народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

**В. ВОЛЬСКІ.**



Рака Беразіна каля Барысава.  
Фота В. Вяхоткі.



# Сідар Авоська

**А. ЯЛЕНЕЦ**

Мал. А. Волкава.

Ён вучыцца на першым курсе інстытута. Вясной яму, як вядома, трэба было здаваць экзамены за другі семестр... Але пачнем не з гэтага.

Пабываўшы зімой на сваіх першых студэнцкіх канікулах, Сідар вярнуўся ў інстытут з... вусікамі.

— От гэта дык выгляд! — сказаў аднакурснік Авоські, камсамолец Васіль, сустрэўшыся з Сідарам каля дзвярэй чытальні. — Не вусы, а крык моды!.. Хутка адгадаваў!

Авоська радасна ўсміхнуўся: яму ўжо зайздросціць, а гэта-ж толькі пачатак!..

— От-жа вусы! — захапляўся Васіль. — Адно кепска — колер малочны. Без гуталіну не абыйдзешся! — і хлопец так зарагатаў, што ажно адчыніліся дзверы чытальні. На парозе стаяла здзіўленая бібліятэкарша Марыя Іванаўна.

— Таварышы, — зашаптала яна, — вы перашкаджаеце! Вы парушаеце агульную цішыню!..

Назаўтра Сідар Авоська прышоў у інстытут з вусамі ранейшага памеру, але іншага колеру — чорненькімі. Уладальнік іх купіў у аптэцы флакончык з надпісам: «Фарба для сівых валасоў» і знайшоў для гэтай вадкасці патрэбнае прымяненне.

З гэтай прычыны Васіль зноў не змаўчаў:

— А такога сродку, — сур'ёзна запытаў ён, — каб перафарбаваць усяго дзівака, з ног да галавы, няма ў аптэцы?

На гэты раз Авоська пакрыўдзіўся, — кпіны былі відавочныя.

Ніхто на курсе не ведаў, чаму Сідар вырашыў насіць вусы. Зрэшты, над гэтым ніхто асабліва не задумваўся, — студэнты былі заняты сваімі справамі — вучобай. А адказ быў просты: Авоська раптам палічыў сябе сапраўдным кавалерам. А які кавалер не захапляецца сабой перад люстэркам?!

Адначасова Сідар палічыў сябе чалавекам заслужаным і перад навукай, — не жартачкі, ён-жа ў інстытуце! Авоська вырашыў запусціць валасы... і адгадаваў памяло па самыя плечы. «Вучоная прычоска», як здавалася яму, вельмі адпавядала яго годнасці.

Будучы «поўнасцю дарослым» і «поўнасцю вучоным», які-ж дзівак будзе вучыць прадметы?!

— Я, каб толькі дазволілі, — выхваляўся Авоська, — за адзін год закончыў-бы інстытут.

— Як гэта?

— Ёсць адзін радыкальны сродак...

— Таксама ў аптэцы? — здзекаваліся хлопцы.

— Вось тут, — і Сідар таямніча дакрануўся пальцам да ілба.

Не прызнаючы ніякіх авоськавых «радыкальных» сродкаў, студэнты сядзелі над падручнікамі.

— Зубрылы! — пасмейваўся з іх Авоська.

У суседа па сталу ён аднойчы спытаў:

— А ці ведаеш ты, Андрэй, што ёсць такі цікавы сродак, ключ да здачы ўсіх экзаменаў — шпаргалітэт?

— Шпаргалкі, ці што? — не зусім зразумеў Андрэй.

— Шпаргалкі — гэта шпаргалкі, — пачаў тлумачыць Авоська, — а шпаргалітэт — гэта цэлая сістэма шпаргалак, якую я распрацаваў. Хочаш, раскажу, як узяць на ўласнае ўзбраенне гэтую навуку?

— Не, дзякую, карыстайся на здароўе сам сваім шпаргалітэтам, — адмовіўся Андрэй. — А я лепш буду чытаць.

— Эх ты! — з пагардай сказаў Авоська. — І як ты не можаш засвоіць адно: студэнт без шпаргалкі — гэта коннік без галавы.

— Не перашкаджай, калі ласка, — і Андрэй схіліўся над кнігай.

«Коннік з галавой» адышоўся ад стала з выглядам пераможцы.

Набліжаліся экзамены. І толькі ў апошнія дні Сідар узяўся за вучобу...

— Слухай, братка, дай мне пачытаць твой канспект, — прасіў ён то ў аднаго, то ў другога.

— А дзе твой канспект?

— Я свой згубіў.

— Дык мне-ж самому ён патрэбен, — быў звычайны адказ на ўсе просьбы Авоські.

Сідар накіраваўся ў чытальню.

— А вы ў якім інстытуце вучыцеся? — спытала Марыя Іванаўна. — Я вас штосьці не ведаю.

— Я з гэтага інстытута! Вось мая студэнцкая кніжка.

— Ні разу вас не бачыла ў чытальні, — сказала Марыя Іванаўна. — А патрэбнай вам кнігі няма, ўсе экземпляры заняты. Прыдзіце заўтра раней, тады і возьмеце.

— Дык мне-ж заўтра здаваць!

Канспект па патрэбнаму прадмету Авоська ўсё-ж знайшоў толькі на ноч. Чытаў, чытаў яго, а думкі былі недзе далёка — у кіно, у тэатры...

Прашпаргаліўшы канспект, Сідар пайшоў здаваць экзамен. І нейкім цудам здаў.

— Хе! Я-ж казаў, што шпаргалітэт — усемагутны сродак!

Наступны экзамен — па эканамічнай геаграфіі капіталістычных краін. Авоська і на гэты раз пусціў у ход адну з рознавіднасцей свайго шпаргалітэта...

І вось ён трымае экзаменацыйны білет. Прачытаў у білеце пытанне і са спакойным выглядам сеў за стол. Дастаў з кішэні праграму. Выкладчык заўважыў, што праграма з нейкімі надпісамі...

— Вось вам мая праграма, а вашу дайце сюды, — ледзь прыкметна ўсміхаючыся, сказаў выкладчык і замяніў Сідару праграму.

Авоська ўспацеў. Ён толькі патрэсваў «вучонаю» грываю ды варушыў «кавалерскімі» вусікамі. Потым разгублена пачаў абмацваць кішэні.

Выкладчык цярпліва чакаў.

— Авоська, — сказаў ён нарэшце, — вы не ў той кішэні шукаеце Турцыю. Турцыя ў правай кішэні. У левай — Грэцыя, Галандыя, Бельгія. Так напісана ў вашай праграме...

І сапраўды, на сваёй праграме Авоська зрабіў паметкі, у якую кішэню схаваны шпаргалкі па таму ці іншаму пытанню.



...На калідоры студэнты «віталі» Сідара.

— Салют Шпаргалітэту!

А Васіль пасмейваўся:

— Вось і даехаў на сваім кані!

З інстытута Авоська вышаў ускудлачаны, з палінялымі вусамі. Праваліўся па геаграфіі! А то, чаго добрага, выкацішся наогул з інстытута!

Пра апошняе ён яшчэ нічога не ведаў.

# Нікалай Андрэевіч Рымскі-Корсакаў

Сорак пяць год з дня смерці

21 чэрвеня 1908 года памёр адзін з выдатных прадстаўнікоў новай рускай музычнай школы, так званай «Магутнай кучкі», — Н. А. Рымскі-Корсакаў.

Геніяльны рускі кампазітар, аўтар шматлікіх цудоўных па дасканаласці твораў опернага, сімфанічнага, камернага, інструментальнага і вакальнага жанраў, Рымскі-Корсакаў быў буйнейшым дзеячом рускай музычнай культуры, сапраўдным мастаком-патрыётам. Ён не толькі спяваў славу рускаму геройству і адвазе, маральнай сіле рускіх людзей, прыгажосці рускай прыроды і народнай песні, але і выхаваў у гэтым духу вялікую плеяду выдатных рускіх музыкантаў, сваіх вучняў і паслядоўнікаў — Глазунова, Залатарова, Гнесіна, Лядава, Арэнскага, Грэчанінава, Лысенку і іншых.

Як і сам Рымскі-Корсакаў, яго творчая школа змагла спалучаць сапраўдную народнасць музыкі, традыцыі якой ідуць яшчэ ад Глінкі, з новымі прагрэсіўнымі дасягненнямі музычнай думкі, застаючыся заўсёды на пазіцыях рэалізма і адкідваючы ўсё ненатуральнае, надуманае, чужое высокай ідэйнасці.

Акрамя сваёй дзейнасці кампазітара і педагога, Н. А. Рымскі-Корсакаў быў нястомным папулярызатарам у Расіі і за мяжой лепшых узораў рускай музыкі, дырыжорам і ўзнаўляльнікам твораў Даргамыжскага, Барадзіна, Мусаргскага, што засталіся ў накідах.

Пры ўсёй сваёй вялікай і шматграннай дзейнасці, вялікі кампазітар быў надзвычай чулым да людзей. Ён заўсёды шчыра адгукаўся на патрабаванні жыцця і часу.

Вось чаму мы бачым Н. А. Рымскага-Корсакава ў перыяд рэакцыі



пасля першай рускай рэвалюцыі 1905 года ў ліку лепшых прадстаўнікоў рускай інтэлігенцыі, якія адкрыта абураліся палітыкай царскага ўрада і рэжымам рэакцыі. У гэты перыяд Рымскага-Корсакава не толькі звальняюць з ліку прафесараў Пецярбургскай кансерваторыі, але і ён сам афіцыйна адмовіўся ад звання ганаровага члена імператарскага музычнага таварыства. У той час кампазітар піша оперу «Залаты пеўнік» — сатыру на царскае самадзяржаўе і стварае на тэму вядомай рабочай песні «Дубінушка» аркестровую п'есу.

Оперная творчасць Рымскага-Корсакава велізарная. Яна ўключае такія шэдэўры, як гісторыка-бытавыя оперы «Пскавіцянка», «Вера Шэлога» і «Царская нявеста», як опера-быліна «Садко», опера-легенда «Сказ пра нябачымы горад Кіцеж», як оперы-казкі «Снягурачка» і «Казка пра цара Салтана», як опера-сатыра «Залаты пеўнік», і яшчэ сем іншых оперных твораў.

Ва ўсёй сваёй творчасці Рымскі-Корсакаў паўстае перад намі як кампазітар выключнага майстэрства і рэалістычнай сілы.

Не меншае значэнне для развіцця ўсёй рускай і сусветнай музычнай культуры мае сімфанічная творчасць Н. А. Рымскага-Корсакава, яго геніяльная аркестровая п'еса «Іспанскае капрычыо», сімфанічны малюнак «Садко», сімфанічныя сюіты «Шахерэзада», «Антар» і г. д.

Вялікая па значнасці і колькасці і творчасць вялікага кампазітара для голаса, асобных інструментаў, для хора і ансамбляў. Ва ўсіх гэтых творах Рымскі-Корсакаў гаворыць аб Радзіме, аб праўдзе, аб прыгажосці.

І цяпер, калі мы адзначаем сорак пяты год з дня смерці Нікалая Андрэевіча Рымскага-Корсакава, мы ганарымся тым, што наша савецкая музычная культура з'яўляецца паслядоўніцай і прадаўжальніцай тых вялікіх традыцый у мастацтве, адным са стваральнікаў якіх быў геніяльны кампазітар, мы ганарымся тым, што «сапраўдны прагрэс музыкі жыве ў нас на Русі» (Рымскі-Корсакаў).

І. НІСНЕВІЧ.

# СУСТРЭЧЫ ДРУЖБЫ

Гэтай раніцай у пасажырскім поездзе Гомель — Вільнюс было надзвычай весела. З вокан вагонаў чуваць былі песні, гукі акардыёна, смех. У поездзе ехала больш трохсот студэнтаў. Для іх весялосці была прычына: яшчэ некалькі гадзін, і яны будуць у сваіх сяброў — студэнтаў Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта.

Не першы год існуе дружба паміж студэнтамі Беларускага і Вільнюскага універсітэтаў. Чатыры гады назад упершыню прыехалі ў Мінск удзельнікі мастацкай самадзейнасці Вільнюскага універсітэта. Тут яны далі вялікі канцэрт. З задавальненнем глядзелі беларускія студэнты на выдатнае выкананне народных літоўскіх песень і танцаў.

— Прыязджайце да нас, — запрашалі тады вільнюскія студэнты.

Прайшоў год, і вось у актавай зале Вільнюскага універсітэта гучаць беларускія песні. Цяпер сустрэчы сталі традыцыйнымі.

...На сцэне — хор Беларускага універсітэта. Дружна апладыруюць яму літоўскія студэнты. Горача сустракаюць яны беларускую песню «З далёкіх з краёў» і літоўскую народную песню «Саулутэ такее» — «Сонейка ўзыходзіць».

Не менш цёпла адклікаюцца студэнты Мінска на выступленне ансамбля песні і танца Вільнюскага універсітэта. Са сцэны звінелі песні на розных мовах, але было слова, якое разумелі ўсе прысутныя. Гэтае слова — дружба!

Вялікае слова — дружба. Аб ім многа гаварылі ў дні сустрэчы. Радасна ўзнялася ўся зала і заапладыравала, калі з трыбуны дзяўчына ў літоўскім нацыянальным касцюме, студэнтка Вільнюскага універсітэта Шымкевічутэ сказала на беларускай мове: «Няхай мацнее наша дружба!»

Словы дружбы гучэлі не толькі ў прамовах выступаўшых, яны былі ў сэрцах прысутных. Кожны ведаў, што гэта не толькі дружба універсітэтаў, але і праяўленне вялікай дружбы паміж народамі нашай вялікай савецкай краіны, працяг гістарычнай дружбы паміж літоўскім і беларускім народамі.

Многа вякоў існуе гэтая дружба. З гордасцю паказвалі літоўскія студэнты сваім беларускім сябрам помнікі, дарагія беларускаму народу. А іх нямала ў старажытным Вільнюсе. Тут мінскія студэнты ўбачылі першыя кнігі і друкарню беларускага вучонага і друкара Георгія Скарыны, галоўны корпус універсітэта, у якім хаваўся ад царскіх шпікоў герой беларускага народа Кастусь Каліноўскі. У Вільнюсе некаторы час жылі і працавалі заснавальнікі беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас.

Чатыры дні прабылі беларускія студэнты ў гасцях у літоўскіх сяброў. І здавалася, што праляцелі гэтыя дні за некалькі гадзін — так радасна і дружна прайшлі гэтыя дні.

— У будучым годзе мы прыедзем да вас, — абяцалі літоўскія студэнты.

— Прыязджайце хутчэй, — развітваючыся на вакзале, гаварылі ім беларусы. — Мы вас будзем чакаць! Да сустрэчы ў Мінску, дарагія сябры!

З. РЫУКІН.

Сябры-студэнты на Замкавай гары ў Вільнюсе.
Фота В. Кірсанава.



## СТУДЭНЦКІ НАВУКОВЫ ГУРТОК

**Некалькі год існуе пры кафедры агульнай хіміі Мінскага медінстытута навуковы студэнцкі гурток. Члены гуртка самастойна праводзяць даследчую работу, звязаную з актуальнымі пытаннямі медыцыны.**

**За выкананыя даследчыя работы члены гуртка неаднаразова прэміраваліся. Два дыпломы атрымалі яны на першай і другой Усесаюзных студэнцкіх канферэнцыях медыцынскіх навучальных устаноў, пяць разоў узнагароджваліся ганаровымі граматамі Міністэрствам вышэйшай асветы і Міністэрствам аховы здароўя.**

**У інстытуце была студэнцкая канферэнцыя. Члены гуртка выступілі на ёй з чатырма дакладамі, якія атрымалі высокую ацэнку.**

**На працягу трох год займаецца вывучэннем фізіка-хімічных асаблівасцей скуры студэнт чацвертага курса Уладзімір Колб. На канферэнцыі ён выступіў з дакладам на тэму «Фізіка-хімічныя даследаванні скуры ў сувязі з рэактыўнасцю арганізма». Вялікую цікавасць выклікаў даклад студэнткі чацвертага курса Людмілы Кучаравай аб выніках даследавання механізма рэакцыі асядання эрытрацытаў.**

**В. БАНДАРЫН.**

**Студэнты Мінскага медінстытута Ул. Колб і Л. Кучарава на занятках у лабараторыі.**





## У КАЛГАСНЫМ ДОМЕ КУЛЬТУРЫ

**Праз адчыненае акно клуба на вуліцу, ахутаную вячэрнім змрокам, льецца песня. Чыстым высокім голасам яе запявае даярка Надзя Бяляўская:**

> **Любы зоры залацістыя,**
> **Любы вы, лугі квяцістыя...**

**Песню падхоплівае дзявочы хор:**

> **Эх, старонка, доляй шчасная,**
> **Наша вольная, калгасная!**

**Колькі харaства ў гэтай простай мелодыі! Яе спявае ўжо не толькі хор, але і калгаснікі, што ідуць у калгасны Дом культуры. Два-тры разы ў тыдзень у Доме дэманструюцца кінофільмы. Тут ёсць вялікая бібліятэка, працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці, адбываюцца спаборніцтвы шахматыстаў і шашыстаў.**

**У пакоі для масавых гульняў устаноўлены вялікі більярд. Калгас заплаціў за яго дзесяць з палавінай тысяч рублёў. Новая гульня вельмі спадабалася калгаснікам і асабліва моладзі. Аматары більярднай ігры ў чаканні сваёй чаргі падоўгу прастойваюць каля стала. Яны — самыя ўсхваляваныя балельшчыкі.**

**М. ВІШНЕЎСКІ.**

**Калгас «Рассвет» Кіраўскага раёна.**

На здымку ўверсе: **У пакоі масавых гульняў калгаснага Дома культуры.**

Фота А. Карніцкага.

## НА ПЯРШЫНСТВА РЭСПУБЛІКІ

**Спартыўнае лета ў разгары. Стракацяць майкамі футбольныя палі, бегавыя дарожкі і ігравыя пляцоўкі, шумяць трыбуны, суддзі рэгіструюць усё новыя і новыя дасягненні.**

**Яшчэ больш цікавым будзе другое паўгоддзе, калі адно за другім на ўсіх буйных стадыёнах рэспублікі будуць праходзіць спаборніцтвы на пяршынства БССР.**

**Жыхары Брэста ў ліпені змогуць наглядаць спаборніцтвы юнакоў па вольнай барацьбе, мастацкай гімнастыцы і акрабатыцы. У верасні там-жа адбудуцца шасейныя велагонкі. На сустрэчы ў Мазыры вылучацца мацнейшыя юныя фехтавальшчыкі Беларусі. У Магілёве будзе разыграны фінал калгаснага пяршынства па шахматах. Калгасныя шашысты правядуць фінальныя ігры ў Гомелі. Там-жа ў жніўні будуць праведзены рэспубліканскія спаборніцтвы па веславанню. Спартсмены Гродна прымуць у сябе гасцей у верасні, калі там будуць праходзіць спаборніцтвы калгасных штангістаў.**

**Некалькі цікавых сустрэч адбудзецца ў Бабруйску. У ліпені туды з'едуцца юнацкія каманды барцоў, у кастрычніку будзе праведзена жаночае пяршынства рэспублікі па шахматах і шашках, у лістападзе сустрэнуцца цяжкаатлеты.**

**Спаборніцтвы па стэндавай стральбе будуць у ліпені ў Віцебску. Там-жа ў верасні адбудзецца пятая Усебеларуская сельская спартакіяда.**

**Шмат масавых мерапрыемстваў будзе ажыццёўлена ў сталіцы рэспублікі. У ліпені адбудуцца матацыклетныя і аўтамабільныя гонкі, спаборніцтвы плаўцоў. У жніўні будуць праведзены фінальныя ігры па воднаму пола, гарадках, на кубак БССР па футболу, заключныя сустрэчы калгасных футбалістаў. У жніўні адбудзецца трэцяя Усебеларуская спартакіяда па валейболу і баскетболу.**

**9 жніўня на Мінскім стадыёне «Дынамо» пройдуць фінальныя ігры юнацкага пяршынства СССР па футболу.**

**Пералічаныя спаборніцтвы далёка не вычэрпваюць усіх спартыўных сустрэч другога паўгоддзя.**

**Пачынаючы з ліпеня, у Мінску адбудзецца каля сарака вучэбна-трэніровачных збораў, большасць якіх будзе папярэднічаць удзелу беларускіх спартсменаў ва ўсесаюзных спаборніцтвах.**






На першай старонцы вокладкі: **Выпускніца-выдатніца Мінскай сярэдняй школы № 9 імя XVIII з'езда ВКП(б) Н. Кіркевіч.**

Фота А. Дзітлава.

На чацвертай старонцы вокладкі: **«Ваколіцы Вязынкі».**

Малюнак В. Грамыкі.

# КРАСВОРД

**Па гарызанталі:** 1. Лётчык. 3. Паселішча ў Туркестане. 4. Рэдкая рэч. 6. Трыганаметрычная функцыя. 7. Паэтычнае сказанне. 8. Адзін з асноўных органаў расліны. 10. Балотная расліна. 12. Метрычная адзінка музычнай мовы. 13. Адтуліна для святла і паветра ў сцяне будынка. 15. Галерэя з арак. 17. Вуснае або пісьмовае данясенне. 20. Марскі інструмент, які вызначае пры апусканні ў ваду хуткасць руху судна. 22. Прыстасаванне для ўтрымання судна на месцы. 24. Стыль плавання. 26. Музычна-вакальны твор у драматычнай форме. 27. Мелкае месца ракі, зручнае для пераходу. 29. Від мастацтва. 31. Фізічнае цела ў паўным стане. 33. Знак азбукі. 36. Мера зямельнай плошчы. 39. Пласт вугалю ў забоі. 41. Павозка на двух колах. 43. Повар на судне. 44. Вялікая водная прастора. 45. Дрэва. 46. Вузкая ручная невялікая піла. 47. Смеласць, храбрасць. 48. Публічная спрэчка на навуковыя тэмы. 49. Малочны цукар.



**Па вертыкалі:** 1. Пэўная частка клавіятуры ад першага да восьмага тону. 2. Персанаж паэмы Пушкіна «Руслан і Людміла». 3. Абрысы якой-небудзь рэчы. 5. Цвёрды камень вапняковай пароды. 7. Драпежная начная птушка. 9. Лесвіца на барту судна. 10. Кольцападобны каралавы востраў. 11. Разрад, ступень. 12. Браніраваная машына на гусенічным ходу. 14. Горад у БССР. 15. Вышэйшы чын ваенна-марской службы. 16. Суадносіны фарбаў. 18. Асоба, загадзя вызначаная для выступлення на вучоным дыспуце. 19. Машына для буксіроўкі прычэпных павозак або для цягі сельскагаспадарчых і іншых прылад. 21. Апошняя літара ў грэчаскім алфавіце. 22. Вершаваная двухскладовая стапа з націскам на другім складзе. 23. Асноўная грамадская арганізацыя ў першабытным грамадстве. 24. Пярэдняя частка верхняй палубы карабля. 25. Лічба. 28. Род шафы, на паліцах якой захоўваюцца гранкі гатовага набору. 30. Частка цела. 31. Птушка. 32. Адзнака, прыкмета, па якой пазнаецца што-небудзь. 34. Прылада для шыцця. 35. Найдрабнейшая часцінка матэрыі. 37. Прыток Волгі. 38. Мінерал. 40. Выбуховае вешчаства. 42. Верш з апавядальным сюжэтам на легендарную або казачную тэму.


**Адказны рэдактар — Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**
**Рэдакцыйная калегія: Янка БРЫЛЬ (нам. адказн. рэдактара), Юрый ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Вадзім ПОЗНЯК, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.**

**«Молодость»**
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Газетна-журнальнае выдавецтва Белпаліграфвыдавецтва, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Адрас рэдакцыі: Падгорны зав., 2. Тэлефоны: адказнага рэдактара — 93-634, аддзела ілюстрацый — 93-985.

АТ 03967. Здадзена ў набор 12/V-53 г. Падпісана да друку 3/VI-53 г. Фармат паперы 70×108 1/16. Друк. арк. 4. (У др. арк. 65.000 зн.). Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20.000 экз. Заказ № 358.

Цана 2 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105

# ЯГО ХАТА З КРАЮ...

Мал. А. Волкава.



Абібочнічаць умее
Хлопец малады:
Сенакос, а ён «хварэе»
У касьбу заўжды.
«Хай працуюць, — разважае, —
Мая хата з краю...»



Гаварылася на сходзе:
Жніва на двары!
А ён спіць сабе, дый годзе,
Храпака дзярэ.
«Хутка ўборка ураджаю! —
Мая хата з краю...»



Вось калі гармонік грае,
Хлопцу весялей.
Хата тут яго не з краю, —
Першы на сяле!
Ён да скокаў дужа ласы.
Не паддайцеся, абцасы!



Каля свірна першы з мехам
Ён увосень стаў,
Ды было тут не да смеху, –
Мала атрымаў.
Хто працуе, той і мае.
Твая-ж хата з краю!

Ул. КОРБАН.

